# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (601) ГОД XII 3 ВЕРАСНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.



Першыя літары... Фота Ю. Рыбінскі

## УВАГА, настаўнікі і школьная моладзь!

У паразуменні з Беластоцкай куратoрыяй ад наступнага нумара пачынаем друкаваць матэрыялы да навучання роднай гісторыі, якія, згодна з загадам Міністэрства асветы, павінны выкарыстоўвацца на лекцыях беларускай мовы і гісторыі. Матэрыял падрыхтаваў мгр Мікалай Гайдук, дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску. У ім будуць распрацаваны ўсе тэмы, якія прадбачваў загад міністра асветы з дня 23.XII.1966 г. друкаваны ў «Ніве» (загад быў таксама распаўсюджаны ў школах Беластоцкай куратoрыяй). Матэрыял будзе друкавацца храналагічна (так як у загадзе міністра), што аблегчыць працу настаўнікам пры складанні планаў. Лакладнейшыя інфармацыі аб карыстанні матэрыялам чытайце ва ўводным слове да першага адрэзка матэрыялаў па беларускай гісторыі, якія будзем друкаваць п.з. «Гутаркі па роднай гісторыі». Сёння толькі яшчэ адзначым, што напісаны яны даступнай мовай і даюць неабходныя веды па роднай гісторыі. Думаем, што апрача настаўнікаў і школьнікаў, зацікавяцца імі шырэйшыя колы нашых чытачоў, якім блізкая гісторыя свайго народа і якія, па тых ці іншых прычынах, не маглі дагэтуль яе пазнаць. Думаем таксама, што не трэба прыпамінаць аб важнасці яе ў правільным выхаванні маладога пакалення і што такія матэрыялы (як дапаможнік для школ) друкавацца будуць упершыню. Таму, хто яшчэ не мае «Нівы», просім неадкладна забяспечыцца нашым тыднёвікам. •

БРАТЫ-СУСЕДЗІ



## КАМБІНАТЫ ПАДРУЖЫЛІ

Васемнаццаціасабовую дэлегацыю **Мастоўскага фанера-дрэваапрацоўчага камбіната,** што прыбыла ў госці да Гайнаўкі, спецыяльна не трэба было знаёміць. Многія тут знаёмыя, таму што нядаўна ў Мастах і іншых гарадах Гродзеншчыны пабывала дэлегацыя гайнаўскіх прадстаўнікоў. Зрэшты, шмат спецыялістаў гайнаўскага лесапільнага завода пабывала ў беларускіх сяброў многа раней у 1961—65 гадах. Каб удакладніць, дык у склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі таксама прадстаўнікі мэблевай фабрыкі ў Гродне.

Мілых гасцей ля парога завода вітае дырэктар **Балеслаў Суліма** ў прысутнасці сакратара Павятовага камітэта ПАРП **Людвіка Бартосяка**. Дзеці з прызаводскога дзетсада ўручаюць прыгожыя букеты гладыёлусаў. Кветкі ў пэўнай ступені развеялі атмасферу афіцыяльшчыны, але цікаўнасць мела быць абяспечана за хвіліну. Дырэктар Суліма расказаў аб гісторыі завода, аб размерах прадукцыі, а таксама ўказаў на сацыяльныя ўмовы рабочага калектыву. Затым — хіба найважнейшая частка— наведанне самога завода.

Праходзім па плошчы, дзе паўстае новая эстакада для разгрузкі сырога дрэва. Набліжаемся да паасобных цэхаў. Сярод наведваючых паўстаюць штораз меншыя групкі. У іх цэнтры суправаджаючыя гаспадары. Кожны мае свой пункт зацікаўлення. Прысутныя даўжэй затрымоўваюцца ў лесапільным цэху. Да сяброў з Мастоў падыходзіць зменны майстар лесапільнага цэха **Казімір Рох.** Ён жа ў 1961 годзе пабываў у Мастах. Дэлегацыя накіроўваецца ў фанерны цэх, але зменнаму майстру лесапільнага цэха ў Мастах **Міхаілу Паўлавічу Чайкіну** і механіку гэтага ж цэха **Мікалаю Андрэевічу Хветчыну** ўжо нікуды ісці не хочацца. Лесапільны цэх — іх стыхія. Хочацца падрабязна пазнаёміцца як «у нас», а як «у вас». Астаемся ў цэху. У рух ідуць меры і меркі, ідзе спецыялістычная ацэнка толькі што парэзанага дрэва. **Ян Крыштопік** шэф прадукцыі гайнаўскага завода і вышэй успомнены зменны майстар К. Рох тлумачаць і выясняюць. Беларускія сябры раяць прымяніць іншы спосаб рэзкі дрэва, не разведзенай пілкай, што прадоўжыць ход пілы. Затым гутарка аб якасці дрэва і зноў абмен думкамі. М. Хветчын расказвае аб тым, як ён сам **вынайшоў плюшчыльны аўтамат** (да згрубліванне канцоў зубоў пілак), які зараз прымяняецца ў Мастах і які аказаўся на многа лепшы ад англійскіх і нямецкіх. Зрэшты, гайнаўскія сябры ў набыцці такой дакументацыі вельмі зацікаўленыя, таму што нямецкія аўтаматы, якія прымяняе завод, як сцвярджалі, кепскія.

Дырэктар Суліма гаворыць, што ў БССР ён быў у 1965 г. Давялося пабываць тады ў Слоніме і ў Мастах. Спадабалася тое, што вельмі добра тут выкарыстоўваюцца адкіды, прадукуецца прыгожая мэбля іменна пры выкарыстанні адкідаў...

Але вось і канец экскурсіі. Стараюся дабіцца да намесніка дырэктара мастоўскага камбіната **Леаніда Вікенцьевіча Варца,** каб магчы даць чытачу хаця маленькае паняцце аб заводзе ў Мастах.

— Леанід Вікенцьевіч, прашу некалькі слоў аб вашым камбінаце.

— Камбінат мае асноўных 2 цэха. Раней было 2 заводы, якія залажылі ў 1927 г. браты Канапацкія. Камбінат паўстаў у 1960 годзе. Прадукуе ён у год каля 46 тысяч кубаметраў фанеры і 110 тысяч кубаметраў піламатэрыялаў. У 1962 годзе занава пабудавана мэблевы цэх, які ўжо ў год выпускае 75 тысяч крэсел і дзіцячай мэблі, а таксама пастаўляе гнутакляёныя дэталі ўсім мэблевым фабрыкам Беларусі. У камбінаце працуе 2,5 тысяч рабочых. На экспарт наш камбінат высылае 5,5 тысяч кубаметраў фанеры.

(Працяг на стар. 4)



Дажалі жыта... Фота Ул. Паўлючук

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каляндары • Весткі

# СВЕТ

## ПАЛІТЫКА Ў ЧАСЕ КАНІКУЛАЎ

Кончыліся канікулы, час перапынку і адпачынку не толькі вучняў, але і рабочых і служачых. Не было перапынку ў палітыцы. У сувязі з тым падсумуем некаторыя асноўныя палітычныя пачынанні.

У сувязі з бліскаўсходнім крызісам цэлы жнівень адбываліся рознага тыпу візіты і кантакты кіраўнікоў дзяржаў і міністраў у асноўным унутры арабскага свету. Змест размоў — узгадненне становішча ў адносінах да ізраільскага агрэсара і краін, якія з ім салідарызаваліся. Адначасова назіралася спробу манцiравання адзінства арабскага свету. Гэтая справа, як мы ўжо не раз пісалі, надта цяжкая і то з розных прычын. Сустракаем тут краіны з феадальным ладам, капіталістычным і краіны, якія праводзяць паступовыя рэвалюцыйныя змены. Розняцца яны становішчам у адносінах да Ізраіля, напр. Алжыр не хоча ніякіх перагавораў з агрэсарам, калі Егіпет быццам бы скланяўся да такой развязкі канфлікту. Арабскія краіны розняць таксама і эканамічныя ўмовы паасобных краін.

## НЕГРЫЦЯНСКАЯ ВАЙНА Ў ЗША

Гэта справа, якая ўстрасянула не толькі Злучанымі Штатамі, але і ўсім светам. Дык як жа гэта? — не адзін з нас задаваў сабе пытанне. Найбагацейшая краіна свету, краіна, якая так бесцырымонна вядзе за тысячы кіламетраў вайну ў В'етнаме, тут, на месцы, у сябе не мае ўпарадкаваных асноўных сацыяльных спраў сваіх жыхараў.

Што гэта вайна, а не толькі звычайныя выступленні, сведчыць тое, што выступленні неграў у ЗША маюць новы характар і новыя маштабы. Аб маштабах гавораць новыя людзі, якія высунуліся на чало барацьбы. Хочуць яны са зброяй у руках змагацца не толькі з расістамі, але з ладам, які на працягу толькіх гадоў не даў амерыканскім неграм нічога. Нават Кінг (адзін з правадыроў амерыканскіх неграў) праціўнік насілля і гвалту змяніўся і зараз гаворыць аб аб'яднанні барацьбы неграў Амерыкі і Афрыкі.

## НАЙБОЛЬШЫ БЮДЖЭТ

70 мільярдаў 100 мільёнаў долараў гэта найвялікшы ў гісторыі ЗША ваенны бюджэт. Больш 20 мільярдаў прадугледжана на в'етнамскую вайну.

## ПАХНЕ МІРАМ З ЖЭНЕВЫ

Камісія 18 дзяржаў па разбраенню сабралася нядаўна на 324 пасяджэнне. Гэта было найкарацейшае ў гісторыі дыпламатыі пасяджэнне, таму што працягвалася ўсяго... 1 мінуту. На пытанне старшыні, хто хоча забраць голас, пачуўся харавы смех сярод прысутных. Але ўсе ведалі, што на наступным пасяджэнні будзе ўнесены праект дагавору аб нераспаўсюджванні і абмежаванні тэрмаядзернай зброі, якога аўтарамі з'яўляюцца СССР і ЗША. А.К.

# БССР

## СВЯТКАВАННІ

Беларусь надта ўрачыста святкуе 450-годдзе беларускага кнігадрукавання. Газеты запоўнены інфармацыямі аб новых мерапрыемствах, прысвечаных гэтай знамянальнай гадавіне. На радзіме беларускага першадрукара Францішка Скарыны ў Полацку адбыўся мнагалюдны мітынг, прысвечаны закладцы помніка вялікаму беларусу.

## ІТАЛЬЯНСКАЙ

У Мінску гасціла дэлегацыя сакратароў падставовых партыйных арганізацый Італьянскай камуністычнай партыі на чале з членам арганізацыйнага аддзела ЦК Італьянскай КП Бруно Берціні.

Госці былі прыняты сакратаром ЦК КП Беларусі Сяргеем Прытыцкім.

## ГРОДЗЕНСКУЮ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза ССР узнагародзіла **Гродзенскую вобласць** ордэнам Леніна за актыўны ўдзел у партызанскім руху і поспехі, дасягнутыя ў мірным будаўніцтве. У сувязі з гэтым першы сакратар Гродзенскага абкома КП Беларусі, Уладзімір Міцкевіч, змясціў артыкул у цэнтральнай беларускай газеце «Звязда».

## ПОМНІК

Пад Мінскам, на дваццаць першым кіламетры Маскоўскай аўтастрады, хутка ўстане помнік, які ўславіць перамогу трох беларускіх франтоў, што ў 1944 годзе разгромілі тут вялікую групу нямецкіх войскаў.

Помнік, у выглядзе трох гігантычных салдацкіх штыхоў, будзе размешчаны на вялікім кургане, спецыяльна насыпаным.

## СТОМА

Вядомы беларускі акцёр **Здзіслаў Стома** ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларусі.

## ВОСЕМ

У сучасны момант Беларусь мае восем вялікіх выдавецтваў: **«Беларусь», «Звязда», «Навука і тэхніка», «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Ураджай», «Полымя»** і **«Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».** Апошнім часам беларускі Савет Міністраў прысвоіў тыпаграфіі выдавецтва «Навука і тэхніка» імя Францішка Скарыны.

Кніжкі, выдадзеныя ў Беларусі, набываюць 63 краіны свету.

## МАРКІ

Міністэрства сувязі Саюза ССР прысвяціла вялікую юбілейную серыю марак братнім рэспублікам СССР. Абавязковым атрыбутам кожнай маркі з'яўляецца Дзяржаўны герб і флаг рэспублікі і назва рэспублікі на рускай і нацыянальнай мовах. Побач з іншымі дэталямі на марках саюзных рэспублік адлюстраваны манументы. Напрыклад, Украіна — помнік Багдану Хмяльніцкаму, Беларусь — манумент савецкім воінам і партызанам у Мінску. (С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

## ВІЗІТ

У днях ад 21 да 24 жніўня прабываў у Польшчы міністр замежных спраў Галандыі Ёзэп Люнс. У час пабыўкі міністра Люнса падпісана тры дагаворы: польска-галандскі дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, польска-галандскі дагавор аб гаспадарчым, прамысловым і тэхнічным супрацоўніцтве і гандлёвы дагавор паміж Польшчай а краінамі Бэнэлюксу (Галандыя, Бельгія і Люксембург).

## У АЎСТРАЛІЮ

Папулярны ансамбль песні і танца «Мазоўша» адляцеў у Аўстралію. Прадбачыцца, што «Мазоўша» дасць у Аўстраліі 115 выступленняў.

## ТКАЛЬНІ

Польшча пабудавала ўжо дзве ткальні на 180 кросен у Аб'яднанай Аравійскай Рэспубліцы. Неўзабаве пачнецца мантаж камплектнай фабрыкі пледаў у Адзіс-Абэбе. Баваўняная фабрыка мантуецца зараз таксама ў Нігерыі, а ў наступным годзе Польшча пачне будаваць у гэтай краіне дзве наступныя фабрыкі.

## СКУП ЗБОЖЖА

Падрыхтоўка да скупу збожжа ў гэтым годзе аказалася значна лепшай чымсьці ў мінулыя гады. Між іншым умяшчальнасць складаў на пунктах скупу пабольшылася на 8 працэнтаў, а склады Цэнтралі збожжава-млынарскай прамысловасці на 14 працэнтаў. Здольнасць перасушкі збожжа пабольшылася амаль на 50 працэнтаў.

## НАЖЫ І НОЖНІЦЫ

Фабрыка «Герлях» у Джэвіцы пачала выраб некалькіх новых прадметаў, між іншым пачалася прадукцыя ножніц з крытымі ўнутры спружынамі, што значна аблягчае карыстанне, а таксама новых тыпаў нажоў. Між іншым нож для рыбаловаў будзе мець два вастрыі: гладкае да краяння рыб і з зубкамі — да чышчэння з лусак. Нож гэты кінуты ў ваду — плавае на паверхні. Нож для паляўнічых будзе мець два вастрыі і пілку да рэзання касцей.

## ТРАКТАР + ТРАКТАР

Вынайдзена даволі простае абсталяванне да злучання з сабою двух трактараў. Абодва трактары спалучаюцца адзін за другім дэмантуючы пярэднія колы задняга трактара. Такі састаў надаецца вельмі добра да працы на цяжкіх да апрацоўкі грунтах заступаючы трактары на гусеніцах, якіх кошт эксплуатацыі надта высокі. Падлічана, што састаў двух трактараў мае на 15—20 прац. большую сілу, чымсьці сіла трактараў застасаваных індывідуальна.

## ТУРЫСТЫКА

На працягу 4-ох гадоў (1963—1966) турыстычнае прадпрыемства «Орбіс» патроіла колькасць дэвіз асягнутых з прыезду замежных турыстаў у Польшчу. 85 працэнтаў замежных турыстаў Польшчы гэта госці з Заходняй Еўропы і заморскіх краін. У гэтым годзе ўпершыню наведала Польшчу 7 экскурсій з Іспаніі і Партугаліі. Узрастае колькасць турыстаў з сацыялістычных краін, а асабліва Савецкага Саюза, ГДР і Чэхаславакіі. (п)

# ВАЯВОДСТВА

## «ЗАЛАТАЯ ВЕХА»

Так называецца конкурс на найлепшы гаспадарчы будынак. Да конкурсу прыступіла найбольш гаспадароў з Беластоцкага павета. Пакуль што конкурсная камісія вытыпавала да ваяводскай узнагароды будынкі Пятра Трускальскага з вёскі Стэльмахава, Мечыслава Эйсманта з вёскі Зубрыца Малая і Язэпа Сціслоцкага з вёскі Крыніцы. Найлепшы ў ваяводстве гаспадарчы будынак будзе прадстаўлены да краёвага конкурсу.

## ПРАЦА Ў ПЗУ

Пляцоўкі ПЗУ вядуць набор ахвотных працаваць у якасці аентаў. Зацікаўленыя гэтым павінны кіравацца ў бліжэйшыя пляцоўкі ПЗУ, дзе атрымаюць дакладныя інфармацыі. Аентамі могуць працаваць пенсіянеры, калі дазваляе ім здароўе.

## МОТАПЕДЫ З ПКО

У выніку лясавання ашчадных кніжак ПКО прэміяваных мотапедамі, шчаслівым нумарам аказаўся № 2.066.614 UO. з Бельскага аддзела ПКО. Віншуем уласніку гэтай кніжкі і заахвочваем усіх да ашчаднасці.

## ШТАНГІСТЫ СССР І ПОЛЬШЧЫ...

...сустрэліся 26 жніўня ў Беластоку. Змагаліся юнацкія каманды абедзвюх дзяржаў. Перамогу заваявала каманда СССР вынікам 5:2. Найлепшым савецкім штангістам аказаўся 19-цігадовы масквічанін Валеры Якубоўскі, які ўстанавіў 2 новыя рэкорды СССР.

## АНКЕТЫЗАЦЫЯ

У 10-ці паветах Беластоцкага ваяводства нядаўна была праведзена анкетызацыя сялянскіх гаспадарак. Разыходзілася пра тое, каб дакладна ўстанавіць, хто гаспадаруе на зямлі, як раздроблены гаспадаркі, хто ў недалёкай будучыні астанецца на зямлі.

Сабраны матэрыял нядаўна абмяркоўвала Бюро для сельскагаспадарчых спраў Ваяводскага камітэта ПАРП.

## ВЯСКОВАЯ СПУЛДЗЕЛЬНЯ ЗДАРОЎЯ

У вёсцы Яблань Касцельная, Высокамазавецкага павета, адкрыта новую, 23-цюю ў Беластоцкім ваяводстве, вясковую спулдзельню здароўя. Пабудова будынка для гэтай спулдзельні каштавала 1 мільён 100 тысяч злотых. Грошы даў Грамадскі камітэт пабудовы сталіцы і краіны (СФОС).

## ПАЖАРНІЦКІ АРКЕСТР...

...з Сямяціч заваяваў першае месца на Беласточчыне ў конкурсе на найлепшае выкананне савецкага музычнага твора прызначанага для духавога аркестра.

## ПАСТАЎКІ ЗБОЖЖА

У Бельскім павеце найбольш збожжа адставілі дзяржаве сяляне з вёсак: Рыбалы, Галёнкі, Паплавы і Вышкі. Жыхар вёскі Пілікі, Станіслаў Бах, за адзін раз адвёз на скупачны пункт 8 тон закантрактаванай пшаніцы.

## ЯК НА ВЕСНУ...

...у некаторых агародчыках у Бельску зацвілі: бэз, маліны і белы язмін. (вр)




**Niedziela 3. IX.**

9.45 Program; 9.50 Centralne Dożynki — transmisja ze Stadionu X-lecia w Warszawie; 12.50 Dziennik; 13.00 „Tanganika" — film radziecki; 13.50 PKF; 14.00 „Wstydliwy fryzjer" — film („Koń, który mówi"); 14.25 „Pierwsze strzały" — rep. film; 14.40 „Letnie spotkania" — film fab. franc.; 15.30 Recital piosenkarski Dana Spatero — Rumunia; 16.00 „Książę piratów" — film fab. USA; 17.30 „Wielka gra"; 18.30 Estrada Literacka: „Daleka droga" T. Kubiaka; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Chcemy się bawić" — film fab. ang.; 21.50 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 4. IX.**

16.50 Program; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film pol.; 17.10 Dla młodych widzów: „Pod siatką" odc. I; 17.30 „Na morskich szlakach"; 18.00 „Eureka"; 18.30 „Koniec jednego opowiadania" — film tv radz.; 18.50 „Klaps"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Cyganie" — rep. film.; 20.25 Teatr TV: I. Krasicki — „Pieniacz"; 21.30 „Wielki skok" („Z kamerą po kraju"); 21.45 Dziennik.

**Wtorek 5. IX.**

10.00 Dla szkół: (kl. I) „Koledzy"; 10.20 „Nigdy nie kłamię" — film fab. węg.; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) M. Maeterlinck — „Ślepcy" („Dzieje dramatu"); 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Higiena pomieszczeń gospodarskich"; 13.05 Przerwa; 16.15 Program; 16.20 Przysposobienie Rolnicze: „Higiena pomieszczeń gospodarskich"; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów: „Wesołe miasteczko" — widowisko lalkowe — program TV Moskwa; 17.30 „Mahometanie znad morza Sulu" — film („Za siedmioma górami"); 17.55 Telekram; 18.05 „Giełda piosenki"; 18.35 TV Kurier Warszawski; 18.50 „Gruziński toast" — rep. film. („Od Kaukazu do Tień-Szaniu"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Nigdy nie kłamię" — film fab. węg.; 21.15 Kronika Kulturalna; 21.35 Dziennik.

**Środa 6. IX.**

8.30 TV Kurs zastosowań metod matematycznych w gospodarce; 9.15 Przerwa; 10.00 „24 godziny w Paryżu" — film dok. franc.; 10.50 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Znaczenie chemii'; 12.25 Przerwa; 16.20 Program; 16.55 Dziennik; 17.00 PKF; 17.10 „Srebrny faworyt" — film CSRS; 17.55 Wszechnica TV: „Klub opowieści z myszką"; 18.25 „Sylwetki X Muzy" — Beata Tyszkiewicz; 18.55 „Paryż śpiewa" — film franc.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.15 „24 godziny w Paryżu" — film dok. franc.; 21.05 „Światowid"; 21.35 „Jazz w Filharmonii"; 22.05 Dziennik.

**Czwartek 7. IX.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pod Czerwonym Sztandarem"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Spotkanie z Seweryną Szmaglewską"; 11.25 Przerwa; 15.40 Program; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.15 „Nie tylko dla pań"; 17.35 „Śpiewnik Domowy" St. Moniuszki — program muzyczny; 18.05 „Progi na Wiśle"; 18.35 „Paryż śpiewa" — film franc.; 18.50 „Kaszubskie wspomnienia" — film pol.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.10 „Po szóstej"; 20.50 „Skarbiec na kółkach" — film fab. franc.; 22.35 Dziennik; 22.55 Politechnika TV.

**Piątek 8. IX.**

9.55 Dla szkół: (kl. lic.) Magazyn Aktualności „Panorama"; 10.30 „Fajki" — film fab. CSRS; 11.55 Przerwa; 15.40 Program; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Przygody Robin Hooda" — film; 17.45 „Pałac Wersalski" — film franc.; 18.05 „Teleplastikon" — program rozrywkowy; 18.20 „Jak być kochaną" — program obyczajowy; 18.55 „Paryż śpiewa" — film franc.; 19.05 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Fajki" — film fab. CSRS; 21.30 „10 minut recenzji"; 21.40 Wszechnica TV; 22.15 Dziennik; 22.35 Politechnika TV.

**Sobota 9. IX.**

10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „W terenie"; 11.25 „Zamieńmy się żonami" — film fab. franc.; 13.00 Przerwa; 15.30 Program; 16.30 Dziennik; 16.35 Program tygodnia; 16.50 Dla młodych widzów: „Piotruś i jego zwierzęta" — film franc.; 17.15 „Spotkania z przyrodą"; 17.40 „Dwunastu gniewnych" („7 milionów młodych"); 18.00 Estrada Poetycka: „Apollinaire"; 18.25 Film; 18.55 „Królestwo Huhza" — film („Za siedmioma górami"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.10 Koncert rozrywkowy; 21.25 Dziennik; 21.45 Wiadomości sportowe; 21.55 „Zamieńmy się żonami" — film fab. franc.




**1 września, piątek**

10.05 Film TV dla uczniów; 10.30 „Przemysł Białorusi"; 11.00 Dla uczniów; 13.50 Program; 13.55 Dziennik; 14.00 Dla uczniów; 15.00 Tydzień Białoruskiej SRR w Moskwie. Otwarcie święta narodowego; 16.00 Dziennik; 16.20 W eterze „Młodość"; 17.00 „Sztafeta nowin".

**2 września, sobota**

8.30 Gimnastyka; 9.00 Film animowany dla dzieci; 10.30 Program z Tbilisi; 11.00 Program o przyjaźni rolników obwodu kurskiego z załogą krążownika „Michaił Kutuzow"; 12.40 Program; 12.45 Dziennik; 12.50 „Wietnam walczy — Wietnam zwycięży!"; 13.20 Tydzień Białoruskiej SRR w Moskwie; 13.50 Program muzyczny; 14.00 Dziennik; 14.10 Klub Filmowy; 15.10 „Rewolucyjny pochód nauki"; 16.10 Kronika Półwiecza. Rok 1927; 17.00 Tydzień Białoruskiej SRR w Moskwie. „Ogoniok"; 18.10 „Bohaterski szlak walki i pracy"; 18.30 Dziennik; 19.00 Tydzień Białoruskiej SRR w Moskwie. TV spektakl; 21.00 Program satyryczny; 21.10 Kronika filmowa; 21.20 Program rozrywkowy z Bukaresztu.

**3 września, niedziela**

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Dla uczniów; 9.15 Film TV; 9.45 W świecie sztuki; 10.15 Pieśni ludowe; 11.00 Reportaż z kołchozu Kalinina nieświeskiego rejonu; 11.30 „Białoruś — pieśni moja". Koncert; 12.00 Dziennik; 12.15 „Bohaterowie podziemnych horyzontów"; 12.45 Koncert życzeń; 13.10 Dla żołnierzy; 13.50 „Kiosk muzyczny"; 14.15 Wszechzwiązkowy Festiwal Rolniczy. „Rosja"; 15.45 „Estrada-67"; 16.45 Kronika półwiecza. Rok 1928; 17.40 Dziennik; 18.10 Tydzień Białoruskiej SRR w Moskwie. Spektakl TV; 19.50 W eterze „Młodość".

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 105




1.

— Трр! Яшчэ сонейка высока, яшчэ напрацуемся, — сказаў Ясько і стрымаў коні. Абматаў лейцы на ручку плуга, адышоў пару крокаў і прысеў на высокі, парослы зялёным мохам камень. Выняў з кішэні кароценькую люльку, туга набіў самасейкай і пару разоў стукнуў крэсівам аб крамух, а як паказаўся дымок, дзьмухнуў і прыткнуў распалены чэр да люлькі. Прагна зацягнуўся дымам і глянуў на коні.

— А над чым так думаеце? — пачуў за плячыма вясёлы голас і пазнаў Язэпаву Гандзю.

— Ах, мая міленькая, ёсць над чым думаць. Пабачце, якая летась прыгожая восень.

— Ды яйбогу. І сонейка свеціць павясенняму...

— Аб гэтым я і думаў, а прысеў на хвілінку пакурыць, хай трохі коні дыхнуць. Хадзі. Гануля і ты прысядзь на хвіліну ля мяне.

— Ой, дзякую. Але з запрашэння не скарыстаю, бо зараз мой Язэп будзе ехаць. І ў мяне многа яшчэ ў полі работы...

— Работа не заец...

— Ой, не, бывайце, Яську, здаровы.

Палажыла на плячо матычку і хутка пайшла на сваю палоску.

Ясько яшчэ доўга глядзеў за ёю і падгаварваў: — спраўная кабетка і ногі мае якія зграбныя. А людзі гавораць, што яе Язэп ходзіць да старой Паўліхі. І дзе ж ён мае вочы і розум... Здалёк убачыў, як мільганула чырвоная хустка Ганулі. Пастукаў аб камень люлькай, устаў і падышоў да коней. Узяў лейцы і вясёла цмокнуў: — Ну, варушэцеся, сіўкі, бо маем яшчэ вялікі шмат работы.

А мо яшчэ пад вечар Паўліна прыдзе пабачыць, — думаў. Не выцерпіць баба. А потым будзе цэлы вечар сакатаць, чаму так мала ўзараў. А так хай баба не гаворыць, узару цэлы кавалак. Роўная чорная скіба зіхацела прыгожым бляскам у ясным асеннім сонцы. У душу ўлівалася якаясь вялікая радасць і брала ахвота да работы.

— Ну, сівыя! Но! — пакрыкваў вясёла на коні.

На сцежцы адкульсьці ўзяўся Міхалка.

— Дзядзю, ці маеш пры сабе агонь? — папытаўся.

— Хадзі хутчэй, то дам. Бачыш, сягоння гэта ўсё мушу ўзараць, — паказаў рукою пазалочанае пожнішча.

— Ого! Хіба не дасце рады, вялікі кавалак. Хопіць на паўтара дня. Коні маеце добрыя, але самі за плугам не выхадзіце, — гаварыў прыкурваючы Міхась.

— А што ты мяне маеш за старога? Ну, але бывай, браток, мне трэба спяшацца. Ну, сіўкі! Но! Хутчэй зробім, то вам будзе ляпей, паходзіце яшчэ па сонейку...

Раптам Ясько ўчуў далёкі, далёкі гул, які ўсё рос і набліжаўся. Аж побач яго поля ў высокім, стройным маладнячку, тысячамі матораў зайграла рэха і проста з дрыжачых крон дрэў сплывала на Яськавае поле. — Пэўна якісь ераплан? Ого, ужо даўно ў гэтай старонцы не было такога шуму. Напэўна лётчык заблудзіў... Усюды блакіт і блакіт, нідзе хмурынкі. Каб хоць адна, тады хутчэй лятун сарыентаваўся б, — камбінаваў Ясько і ўсё часцей адрываў ад баразны вочы і ўглядаўся, адкуль ішоў штораз мацнейшы рык матораў.

Убачыў маленькую, чорную кропку, якая павялічвалася і расла ў вачах і ўжо была падобная да бусла. Коні пачалі неспакойна стрыгчы вушамі.

— Тррр! — спыніў Ясько коні блізка зялёнай грушкі. Прыкрыў далоняю сонца і прагна пачаў углядацца.

Два цёмназялёныя самалёты плылі невысока над лесам: нясліся проста на Яську.

Ой! Яшчэ ніжэй апускаюцца, каб мне толькі коней не напужалі.

Гэта, што Ясько ўбачыў, здалося яму цудоўным сном. Пад крыламі самалётаў выразна было відаць чорныя крыжы. Пэўна гэта едзе сам святы айцец з далёкага Рыму? — мільганула ў Яськовай галаве. Адным узмахам скінуў з галавы шапку і ўпаў на калені. Высока ўгору падняў рукі і глядзеў, глядзеў...

Адзін побач другога праляцелі самалёты, аж зямля застагнала.

О! Што гэта, паварочваюць? Зніжаюцца! А нуж зараз пасядаюць на раллю, а сам святы айцец выйдзе з ераплана і будзе благаславіць яго работу. Яська хутка пачаў гаварыць пацер. Б'ецца ў Яські сэрца, мала грудзей не разваліць. Раптам чуе якісь трэск і ломат, як бы зямля лопала, але нічога не баіцца, бо гэта ж святыя самалёты...

Чуе, што яго нешта вельмі з'едліва ўкусіла ззаду за патыліцу. Лапае рукою за шыю і праганяе сляпня. Чуе пад рукою мокрае і думае: як спацеў... Зноў нешта ўцяло ў плечы і ў галаву... Самалёты растуць у вачах і робяцца штораз большыя... Раптам Яську агартае якаясь салодкая дрымата... Так хочацца, хоць на адзін момант, злажыць вельмі цяжкія павекі... І паволі абсоўваецца на свежую раллю...

Глядзіць, як на дзікую грушу сядае вялікі самалёт... Адчыняюцца дзверы і выходзіць убраны ў снежную бель святы айцец, які сходзіць па тонenькіх, зялёных галінках на зямлю... Ясько бачыць яго дабратлівую ўсмешку і цешыцца, ах, як ён цешыцца...

2.

У гэты дзень Паўліна зусім не думала ісці ў поле. — А няхай там і адпачне трохі, бо і так працуе ад цямна да цямна, — думала сабе. З самага ранку ўзялася мыць. Памыла ўсе сарочкі, павыкручвала і павесіла на падворку на ўсіх платах. Палатала яшчэ парваныя нагавіцы. Па абедзе ўглядалася як над лесам кружыліся ерапланы. Чуваць было нейкія выбухі. Але стары Кузьма сказаў, што пачаліся вайсковыя манеўры. А што яе абходзяць гэтыя іх манеўры. Вернецца Ясько з поля, то і так мне ўсё раскажа, бо напэўна ўсё бачыў, — падумала і пайшла да свае работы.

Ужо і каровы папрыходзілі з поля. Падаіла, пазаганяла. Дала свіням. Наварыла вячэраць, а Яська ўсё няма і няма. — А то ўзяўся за работу. І што ён сабе думае. Усё за адзін дзень хоча ўзараць, — гаварыла і пачынала гневацца.

Паволі снаваўся шаўковы вераснёвы змрок. Вечар быў цёплы, як бы набліжалася вясна. З-за лесу выкаціўся чырвоным колам месяц.

Не вытрымала Паўліна, вячэра ўжо і так даўно прастыла. Хутка пайшла на сваё поле. Ноч была вельмі відная...

Затрымалася на сцежцы ля свае палоскі і замахала рукамі. Аж затрэслася ад злосці: толькі чатыры загоны!

Пад грушаю нешта бялела. Пэўна з коньмі застаўся на начлег. І разzлаваная, хутка пусцілася ісці праз пожню...

— Ну так, спіць! Распалажыўся тут на начлег!

Падышла да коней і пачала вачыма шукаць Яська... А то ж чаму ён разваліўся на раллі? Затрымалася на момант, прыгнулася і злапала плячо.

— Уставай! Як табе не сорамна! Ах ты, гультаіску! Дам я табе! — крычала на цэлы голас. А чырвоны месяц свяціў проста ў нерухомы твар Яські і сароме́ўся людскіх учынкаў...

3.

— Гавары мама ўсё! — загарэўся твар Эльзы. — Мяне гэта надта цікавіць.

— Але я прысягала твайму бацьку перад Богам...

— Мама, але я ж твая дачка!

— Так доньку, ты ў мяне толькі адна асталася на свеце... Па бацьку і па Роберце нам засталося толькі вось што, — узняла маці дрыжачыя, касцістыя рукі над вялікай гурбай здымкаў, раскіданых па стале...

— Што зробіш, мама, вайна не выбірае. Але ты гавары. Ты нічога не скрывай перада мною...

— Эльза! Донька мая, але праз толькі лет я маўчала...

— Мама! Чаго плачаш? Гавары!

— Эльза, але не гневайся на мяне.

— Мамачка. За што? — Эльза абняла маці за шыю і прытулілася... — Гавары, мама.

— Донька, я адтуль...

— Адкуль, не разумею?

— Там, дзе цяпер ідзе вайна...

Эльза глянула маці ў вочы: — Нічога не разумею, мама.

— Я нарадзілася там, дачушка, дзе загінуў наш Роберт.

— Што ты, мама!..

— Я ведаю, дачушка, што табе гэта цяжка зразумець, але паслухай, было гэта так:

Быў год 1914. Мы жылі ў маленькай вёсачцы акружанай лясамі, далёка на Беласточчыне. Халера вылажыла з паўвёскі людзей, і тады памерла мая мама. Асталося нас толькі трое: бацька, я і старшы брат, Ясько. Бацьку забралі ў салдаты і загінуў дзесь без весткі ў нямецкім палоне...

— Не разумею, мама, як гэта, мой дзедка?!

— Так, дачушка, твой дзедка служыў у рускай арміі і ваяваў з немцамі...

— То ён не быў немцам?

— Не, дачушка. Твой дзед і твая бабка жылі ў Польшчы...

— То ты, мама, палячка?

— Не, дачушка, я не ўмею гаварыць ані па-руску, ані па-польску. Наша вясковая мова была простай, такая свая мова...

— А як ты, мама, сюды трапіла?

— Так, асталіся мы ўдвох з Яськам, але разам мы былі нядоўга. Праз нашу вёску праходзіў фронт. Пагарэлі ўсе ў вёсцы хаты. Людзі дзесьці паўцякалі. А мы з Яськам асталіся на вялікай купе пажарышчаў. Прышла ноч і не было дзе падзецца. Цэлую ноч жудасна выў чыйсьці сабака, а мы плакалі і не маглі заснуць. Прыйшоў ранак, засвяціла яснае сонца. У спаленую вёску прышла грозная калона немцаў. Мы з Яськам вельмі іх баяліся, але не было куды ўцякаць. Сядзелі на папялішчы, дрыжэлі са страху і чакалі смерці. Мы нават не спасцераглі, як падышоў да нас высокі нямецкі салдат. Ён усміхнуўся да нас, нешта сказаў і хутка адышоў. Праз пару мінут ізноў з'явіўся з поўным кацялкам гарачага супу. Даў нам дзве лыжкі і ўглядаўся, як мы прагна елі. І так мы пазнаёміліся з Гансам, тваім бацькам...

Яшчэ адну ноч начавалі мы з Яськам на сваім пажарышчы... Але Ганс прынёс нам вечарам цёплую каву і цёплы коц... Я зусім не ўмела з тваім бацькам гаварыць.

— Ну, то як жа вы дагаварыліся?

— Слухай, дачушка. Ганс у той самы вечар прывёў якогасьці другога, лысага ў акулярах немца, які ведаў нашу мову. Праз яго Ганс стаў нас пытаць пра бацьку. І калі даведаўся, што мы не маем бацькоў, я бачыла, як з вачэй выціраў слёзы і нешта хутка гаварыў да перакладчыка. Зараз перакладчык сказаў, каб мы ранкам перайшлі ў другую вёску, якая асталася цэлая. І так было. Яську згадзіўся адзін гаспадар узяць да кароў. А Ганс, які затрымаўся ў гэтай вёсцы, карміў мяне і апекаваўся. Ганс хутка вучыўся і разумеў нашу мову. І так мы гаварылі. Дзе не хапала слоў, там памагалі рукамі. Ён быў для мяне вельмі добры. І так мы без слоў дагаварыліся. Я шчыра пакахала Ганса. Аднойчы прыйшоў да мяне і сказаў, што едзе ў водпуск і хоча, каб я з ім паехала. Згадзілася, бо што ж мела рабіць? Развіталася з братам і паехала. Гэтак я трапіла ў Германію. А твой дзедка і бабка, якіх ты яшчэ памятаеш, былі добрымі людзьмі і прынялі мяне, як сваю родную дачку. За два тыдні Ганс выехаў, а я асталася з бацькамі і мне было сумна. Ганс часта прысылаў пісьмы, якіх я не ўмела чытаць. Трэба было кожны дзень вучыцца нямецкай мовы.

Але аднойчы не маглі мы дачакацца пісьма ад Ганса. На нашыя пісьмы не было адказаў. Аж даведаліся мы ад аднаго салдата, што Ганс быў паранены і знаходзіцца ў шпіталі. Неўзабаве прышло ад яго пісьмо. Чыталі і плакалі. Праз два месяцы Ганс вярнуўся здаровы, але без нагі. І прывёз мне ведаеш што? Яськаву здымку! Гэта быў вялікі падарунак. — Вось паўзірайся. — Маці падала пажоўклую картачку. — Гэты абарваны хлопец — гэта мой брат, з якім я ўжо больш ніколі не бачылася.

— Перастань плакаць, мама.

— Ах, дачушка! Гэта праклятая вайна мне забрала бацьку і маці, брата, мужа і сына. Толькі ты мне адна асталася на свеце.

— Перастань, мама, плакаць, плач нічога ўжо не паможа... Гавары далей, мама.

— І так, дачушка, выйшла я за твайго бацьку замуж. Прышоў на свет Роберт і праз два гады ты. Жылі мы ўсе шчасліва, аж зноў прыйшла гэтая зверская вайна. Ты падумай, дачка, я ўжо ніколі не бачыла свае роднае зямелькі. А гэты здымак, які прыйшоў з паперамі Роберта, прыпамінае мне родную старонку...

Эльза ўзяла ў рукі вялікі здымак. — Але што гэта, мама, абазначае?

— Дзікая груша... Два сівыя коні заложаныя ў плуг. І чалавек на раллі стаіць на каленях падняўшы ўверх рукі?

— Прачытай, донька, на адвароце, што напісаў Роберт. Гэтую здымку ён зрабіў з самалёта...

Эльза адвярнула картачку і пачала голасна чытаць: — Мэссершміт, 1 верасня 1939 года. Полен капут! Гайль Гітлер!

В. АСІПОВІЧ

## ПАД ВОСЕНЬ

А людзі зноў якія ўсе багаты!
Па дом, па жонку, па дзяцінства...
Заколюць вепрука — дахаты
Нясуць асмаленае «свінства».

А потым пузыры пускаюць ўгору дзеці.
І пузыры варонам лопаюць аб нечым
Ці аб падворку дымам засланым і сецямі
Саломы. Яшчэ мужыцкім і чалавечым.

І калі з коміна
Пакажацца вяпрук у кшталце дыму
І квік смяротны пяройдзе ў вецер —
Асеннія грудзі зямлі падымуць
Трактары,
І знішчаць і зелле і квецце.

Іван Чыквін






Паглядзі на плён працы
Што зярнят мары
Адкрыта на свет нясе

Убачыш галоднага рукі
Зложаныя да малітвы
Хрыста радзі
Градавы груган нахлынуў
Слёзы адзвінелі косамі
І ўгары чуваць песню змагання

Сялянскае сэрца
Потам аблітае
Праслаў яго
За хлеб свой белы
Не цурайся калыскі дзяцінства
Глядзі
Надзея збярэцца ў спелы колас

Ул. Гайдук

(Працяг са стар. 1)

# КАМБІНАТЫ ПАДРУЖЫЛІ



На пляцу завода. Справа дырэктар Б. Суліма, у сярэдзіне нам. дырэктара ў Мастах Леанід Варэц.

Гэта абазначае амаль палавіну ўсёй экспартнай фанеры Беларусі ў такія краіны як: ААР, Сірыю, Англію, ГДР і іншыя. Перспектывы? У хуткім часе паўстане цэх, які будзе прадукаваць 70 тыс. кубаметраў у год дрэвастругальнай пліты (пільснёвай).

— Дзякую. А вашыя ўражанні аб гайнаўскім заводзе?

— Коратка кажучы вельмі добрыя, ёсць чаму павучыцца і пачарпнуць. Спадабалася біржа сыр'я, парадак сарціроўкі, культура на біржы. Несумненна цікавіла мяне таксама новае абсталяванне, а таксама выкарыстанне адкідаў.



Беларускія госці ля біржы сыр'я.

Даўжэй я не мог прытрымліваць Леаніда Вікенцьевіча, таму што ўсе чакалі на яго ў аўтобусе, які павёз беларускіх гасцей у Белавежу, каб у той жа яшчэ дзень назад прывезці на сустрэчу з калектывам гайнаўскага лесапільнага завода.

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара

# Курс для настаўнікаў

Ад 3 да 12 жніўня г.г. 30 настаўніц і настаўнікаў, якія вучаць беларускай мовы ў школах на Беласточчыне, бралі ўдзел на спецыяльна сарганізаваным для іх курсе беларускай мовы ў Беластоку. Кіраўніком курса быў школьны візітатар Ян Канапелька. Тэмы курса былі зацверджаны загадам Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва ў справе навучання беларускай мовы ў школах у Польшчы, а перад усім адносіліся яны да абмеркавання матэрыялу па гісторыі Беларусі ў пачатковай школе I так, заняткі па методыцы беларускай мовы вяла мгр Анна Багроўская, па беларускай літаратуры др Аляксандр Баршчэўскі, па граматыцы і гісторыі беларускага народа — мгр Аляксандр Іванюк і аб працы ў злучаных класах і самаўпраўстве вучняў заняткі вёў візітатар Ян Канапелька. Усіх урокаў было праведзена 78. На курсе беларускай мовы распрацоўваліся такія тэмы: «Значэнне роднай мовы ў школе», «Фарміраванне беларускай народнасці і мовы», «Сучасная беларуская мова» (фанетыка, марфалогія, сінтаксіс), «Беларуская савецкая літаратура» і г.д.

На заканчэнне курса віцэ-куратар Куратарыум Беластоцкай акругі мгр Роман гаварыў да кіраўнікоў школ, у якіх навучае 4—5 настаўнікаў, і курсантаў аб цяжкасцях у працы, якія выступаюць у школах гэтага тыпу (г. зн. дзе ёсць злучаныя класы і дзе працуе 4—5 настаўнікаў у школе, дзе ёсць 8 класаў) і якімі метадамі ў штодзённай працы можна ў такіх школах дабіцца пасняховасці ў навучанні.

Настаўнікі вынеслі з гэтага курса самыя лепшыя ўражанні: яны ў міжчасе хадзілі на экскурсіі да гуты шкла і пасмантэрыйных закладаў у Беластоку, узбагацілі свае веды па літаратуры і граматыцы сучаснай беларускай мовы.

Курс беларускай мовы тэарэтычна падбудаваў беларускіх настаўнікаў у тым, як навучаць гісторыі Беларусі ў пачатковай школе і якімі спосабамі падаваць матэрыял вучням на ўроках. Гэтыя тэмы з'яўляюцца, як усім вядома, пэўнай навасцю ў навучанні роднай мовы. Настаўнікі многа скарысталі з курса і здабытыя веды, несумненна, памогуць ім у іх нялёгкай працы.

Словы асаблівай удзячнасці належацца за гэта кіраўніцтву курса і выкладчыкам.

(ЯЦ)

# ВЯСЕЛЛЕ НА ЎСКРАІНАХ



Цікавыя менавіта ўсялякія ўскраіны — перыферыі горада, нацыі этнічнай групы. Вяселле адбываецца на ўскраінах горада, маладажоны і госці з акраін беларускага этнаграфічнага асяроддзя, а адначасова акраін польскіх нацыянальных уплываў. Назаву мясцовасці па імені: малады з вёскі Крыніцкія, маладая — з Сальнікаў — шлюб адбываецца ў Беластоку.

На гэтым вяселлі ніхто не гаворыць па-беларуску, хаця ў хатах, з якіх яны прыехалі, гучыць яшчэ беларускі дыялект. Усе тут у сваёй свядомасці палякі, ёсць сярод іх старыя адданыя дзеячы польскасці, якія нясуць праз завірухі падзей свядомасць польскага нацыянальнага пачуцця. Усе прысутныя — каталікі. Веравызнанні пагранічча моцна загледжаны ў сілу і чысціню сваёй дактрыны, іншасць сваёй абрадавасці, адрозненне ад суседзяў.

Вернемся аднак да вяселля.

Вуліца называецца Куяўскай. Гэта ўласціва не вуліца, а проста канец горада, некалькі хатаў і звычайнае поле. Бацькі маладухі перанесліся сюды некалькі гадоў таму назад, пакінуўшы родныя Сальнікі. Маладыя паспелі ўжо пабываць у касцёле, ды — што належыць ужо да ўсталенага рытуалу шлюбу — у фатаграфа. Дзетвара з усяе вуліцы сабралася ля хаты з астраколамі ў напружаным чаканні. Убачыўшы аўтамашыны, зусім так, як на звычайнай вясковай вуліцы, з крыкам: «едуць! едуць!» паімчалася ў іх напрамку і перагарадзіла вуліцу стужкай упрыгожанай кветкамі. На парозе традыцыйным звычаем чакаюць маладых з поўнымі чаркамі бацька і маці. Благаслаўляюць, выпіваюць чаркі, потым іншыя госці складаюць пажаданні.

Традыцыйных момантаў на вяселлі аднак нямнога. Рэшткі перапіўкі, урачыстае зняццё вэлюма, традыцыйны каравай замяніў салодкі, заказаны ў краме торт. З перапіўкі, як мы ўжо сказалі, на перыферыях горада асталіся толькі астаткі. Госці з горада гарадскім звычаем аддалі свае падаркі ўвайшоўшы ў вясельную хату, госці з вёскі чакаюць, калі старшы сват спакойна і без ломату аб'явіць складку падарункаў. Няма адзначанага ручніком маршалка, няма багатай вясельнай абрадавасці, няма вясельных песень.

Вось менавіта: песні. Хіба нішто не выяўляе так чалавечага нутра, найбольш скрытых, інтымных пачуццяў і настрояў, як музыка і песня. Таму так істотнай справай для зразумення грамадскага жыцця з'яўляюцца песні, якія людзі хочуць і любяць спяваць.

На прыгарадным вяселлі цікавая з'ява: людзі любяць спяваць адно, а хочуць спяваць — другое. У суме песенны рэпертуар прыгараднага вяселля даволі скупы. Сяляне з Крыніцкіх і Сальнікаў не хочуць на вяселлі ў Беластоку спяваць песень беларускіх і рускіх. Спяваюць песні польскія, як мага больш устарэлыя, прымітыўна сентыментальныя. «Погнала волкі на Буковінэ», «О муй розмарыне» і яшчэ нейкія ўланскія песенькі, дзе перамешаны з сабою прымітыўныя фразы аб Богу, дзяўчыне, айчыне і ўланскай ахвярнасці. Песні гэтыя ўносілі ў міжваенны перыяд, у гэтыя з традыцыйнай беларускай этнічнай культурай вёскі павеў польскасці і нейкую сувязь з узнікшай палітычнай айчынай.

I толькі тады, калі вясельнікі добра ўжо падхмяліліся, паклікаецца да жыцця першабытная, будучая ў асноў мясцовай традыцыі ўсходнеславянская прыкрытая запазычаннямі і ўяўленнямі палітычнага характару, стыхія. Толькі тады, калі прысутныя заспявалі на тыповым бельскім дыялекце «Выпрагайтэ хлопці коні» адчулася на тварах старэйшых бяседнікаў тое, што можна было б назваць чарам, «містыкай» народнай песні: захапленне спалучанае з чуллівасцю і ўспамінамі самых прыгажэйшых хвілін жыцця. Потым ідзе старая руская «Разлука, ты, разлука» і зусім сучасныя «Навасёлы», якія неаднойчы ўжо прыходзілася мне слухаць пры такіх нагодах.

I нарэшце п'яная, а тым не менш мнагазначная размова на тэму надзвычайнай прыгажосці і чуллівасці ваколіц Заблудава, як і іншых ваколіц этнічнага і веравызнаўчага пагранічча, увабраўшыя ў сябе многа з усходняй і заходняй славяншчыны, прывязаныя ў глыбі душы да беларускай мовы і народнай культуры ў роўнай меры што і да Польшчы — айчыны і свайго веравызнання, найлепш надаваліся да таго, каб стацца сапраўднымі прыхільнікамі, прапагатарамі як найдалей ідучага збліжэння і ўзаемазразумення нацый і народаў — сапраўднымі інтэрнацыяналістамі. Калі так не сталася — віна ў гэтым складаных гістарычных падзей, праз якія прайшла наша зямля, а таксама пэўнай шаблоннасці ў трактаванні спраў нацыі, народнасці і веравызнання ў сучасны момант.

**Рыгор Паўлюк**

# Голадна і холадна

«Клуб селяніна» ў Боцьках (Бельскі павет) змяшчаецца ў цесным пакойчыку старой хаты. Па вечарах за столікамі збіраецца тут нават у будзённыя дні шмат людзей, асабліва маладых дзяўчат і хлопцаў.

На жаль, у буфеце клуба пуста Толькі папяросы, мыла, адэкалон і некалькі пачак піражнага. Няма ніякіх напіткаў. Буфетчыца бездапаможна раскладае рукі і кажа, што няма тавару на складзе. Частуе наведвальнікаў сумнай музыкай з праігрывацеля, які, дарэчы, з'яўляецца яе ўласнасцю.

Праўленне Боцькаўскага ГС-у знаходзіцца зусім недалёка ад клуба. Відаць аднак, што яго старшыня (значыць старшыня ГС-у) не бывае ў клубе. Інакш затросся б ад злосці на такія парадкі ў сваім «каралеўстве». А можа ў яго важнейшыя клопаты на галаве? Відавочна думае, што ўжо многа зрабіў, калі абсталявалі будынак і за буфетам паставілі прадаўшчыцу.

(вр)




### ЗВАНОК З ФБР

На пятым паверсе міністэрства юстыцыі ў Вашынгтоне, на вуглу 9-й вуліцы і Пенсільванія-авеню, Эдгар Гувер зняў трубку тэлефона прамой сувязі з кабінетам міністра. Да тэлефона падышла асабісты сакратар Роберта Кенедзі Анджы Новела, што ўставілася на рваную тэлеграму ЮПІ, якую атрымаў заплаканы сакратар аддзела друку.

— Гаворыць Эдгар Гувер. — Як заўсёды голас быў перарывісты, прарэзлівы, механічны. — Чулі навіну?

— Так, пан Гувер, але я не паведамлю яму пра гэта.

— У прэзідэнта стралялі. Я пазваню яму.

Тэлефаністка Белага дома злучыла яго з унутраным тэлефонам 163 ля плавальнага басейна за асабняком Роберта Кенедзі. Адказала Этэль Кенедзі. Тэлефаністка сказала: «Звоніць Дырэктар». Этэль не было патрэбы пытацца, які дырэктар. У афіцыяльным Вашынгтоне шмат дырэктараў, але толькі адзін Дырэктар з вялікай літары. Яна адказала: «Міністр юстыцыі снедае».

Ля другога вугла басейна яе муж толькі што паглядзеў на гадзіннік. Было 13 гадзін 45 мінут (12.45 у Даласе). Роберт Кенедзі ўзяў сандвіч з рыбай і сказаў аднаму з гасцей: «Нам лепш пасняшыць, час вяртацца на нараду».

«Тэрміновая справа», — сказала тэлефаністка. Этэль крыкнула: «Звоніць Эдгар Гувер». Роберт Кенедзі зразумеў, што адбылося штосьці незвычайнае. Дырэктар ніколі не званіў яму дамоў. Ён падышоў да тэлефона — і ў той момант, калі ён узяў трубку, рабочы, які працаваў над прыбудовай да асабняка і слухаў перадачу па радыё, ускочыў і пабег да яго з невыразным крыкам.

Міністр юстыцыі назваў сябе па тэлефоне.

— У мяне для вас вестка, — сказаў абыякава Гувер. — У прэзідэнта стралялі, і ён паранены.

Настала паўза. Кенедзі запытаўся, наколькі цяжка.

— Думаю, што цяжка. Паспрабую даведацца пра падрабязнасці і пазваню вам, — сказаў Гувер і павесіў трубку.

Міністр юстыцыі таксама паклаў трубку і пайшоў да жонкі і двух здзіўленых гасцей, да якіх пачаў даходзіць сэнс слоў рабочага. На паўдарозе Кенедзі спыніўся. У гэты момант ён усё зразумеў. Сківіца яго адвісла. «У Джэка стралялі!» — усклікнуў ён і закрыў твар рукой.

Як і прэзідэнт, Боб Кенедзі не любіў публічных выказванняў пачуццяў, і ніхто з сяброў, якія неўзабаве сабраліся ў двары асабняка, не мог сказаць, што ён упаў духам. Але ўсё ж былі моманты, калі яму даводзілася адварочвацца і глядзець удалячынь — на купальню, на тэнісную сетку, на дрэвы — толькі б не сустрэцца ні з кім вачыма. Яго першай думкай было ляцець туды, дзе ляжаў яго паранены брат. Паведаміўшы Роберту Макнамару, што яму неадкладна неабходны самалёт, ён кінуўся ў дом пераапрануцца.

### У ШПІТАЛІ

Для большасці прысутных у Парклендскім шпіталі з'яўленне свяшчэнніка было першым сігналам ракавой развязкі. Амаль усе ўбачылі яго чорную сутану — зразумелы для ўсіх сімвал смерці. Макілдаф шапнуў Альберту Томасу:

— Напэўна, ён памёр.

Свяшчэннік Оскар Х'юбер падышоў прама да Жаклін Кенедзі. Цяжка дыхаючы, ён прамармытаў словы спачування і стаў побач з ёю. У выпадках раптоўнай смерці ён заўсёды ўжываў спрошчаны рытуал саборавання і на гэты раз механічна ўжыў свой звычай. Ён ні разу не зазірнуў у свой малітоўнік. Доктар Бэрклі буркнуў: «I гэта ўсё?» Доктару ніколі раней не даводзілася папракаць свяшчэннікаў, але гэта паспешная цырымонія зняважыла яго. Яна непрыемна нагадвала яму раўнадушныя дзеянні сядзелак. Смерць прэзідэнта, думаў ён, павінна б быць абстаўлена больш урачыста.

— Хіба вы не можаце прачытаць нейкія малітвы за памершага? — запытаў ён.

Айцец Х'юбер паспешна выбраў некалькі малітваў на англійскай мове. У звычайных умовах ён стаў бы на калені, але тут уся падлога, як ён бачыў, была заліта крывёю. Ён не ведаў, што

 




Звыш 60-ціасабовая група гарцэраў і гарцэрскіх інструктараў правяла месяц жнівень у лагеры над Бугам у Сямяціцкім павеце. Свае палаткі гарцэры абсталявалі ў сасновым лесе, з якога да ракі ўсяго ледзь некалькі сот метраў. Час праводзілі весела і змястоўна.

Асабліва добрыя суадносіны наладзілі яны з мясцовым насельніцтвам. Для дзяцей з вёскі Волька над Бугам гарцэры абсталявалі **«зялёны дзіцячы сад»**. Апекаваліся малышамі, калі іх бацькі былі ў полі. Лагерны лекар **Лешак Нічыпорук** ахвотна прымаў хворых сялян у гарцэрскім медыцынскім пункце «Ойболі».

Гарцэры цікавіліся гісторыяй мясцовых вёсак. Яны, між іншым, правялі гутаркі з жыхарамі вёскі Слохі Анапольскія, дзе гітлераўцы ў чэрвені 1941 года зверскі замардавалі дзесяць сялян.

Тэкст і фота **В. Рудчык**



У свабодны час можна пасціваць пад гітару.



Гарцэры самі рыхтуюць ежу. Калі адны чысцяць бульбу ў лясной кухні...



...другія даносяць воду з калодзежа.



Ліст да мамы, каб не турбавалася. У лагеры свая паштовая скрынка.

# СМЕРЦЬ У СНАРАДАХ

Не пра зверствы «Янкаў» у В'етнаме хачу пісаць. У нас таксама вайна, хаця закончылася яна 22 гады таму назад, усё яшчэ збірае сваё крывавае жніво. Яе ахвярамі бываюць найчасцей дзеці. У першым паўгоддзі гэтага года было забітых 2 і параненых 5 дзяцей. Трое сярод іх асталося калекамі на ўсё жыццё. Усе яны лёгкадумна наладжвалі гульні са старымі снарадамі. А вось некаторыя прыклады:

Вёска Хаце ў Сямяціцкім павеце. 16-цігадовы хлапчук, Пеця Якуць 21 мая г.г. выбраўся з сябрамі ў лес. Тут яны знайшлі мінамётны снарад. Пеця ўзяў снарад у рукі і нацэліўся ім у бліжэйшае дзерава.

— Пабачыце, — заявіў, — які зараз будзе грукат!

Сябры адмаўлялі яго, прасілі, каб не чапаў заір жавелай жалязякі. Пеця хацеў паказаць сябе адважным. Сябры ўцяклі, а ён швырнуў снарадам у дзерава. Грукат сапраўды быў магутны. Толькі Пеця Якуць ужо не пачуў яго. На шчасце яго сябрам нічога не сталася. Яны паспелі схавацца.

Падобнае няшчасце здарылася 2-га ліпеня гэтага года ў вёсцы Яцоўляны на Сакольшчыне. Тут таксама ўзрывам мінамётнага снарада разарвала 17-гадовага юнака Рышарда Булея. Няшчасны хацеў развінціць снарад, каб пабачыць, што там у ім у сярэдзіне.

Гэта толькі некаторыя прыклады трагічнай лёгкадумнасці. На палях, у лесе і на лугах шмат яшчэ ёсць небяспечнага жалеза, якое асталося ў спадчыне пасля вайны. Заіржавелае яно, аблепленае зямлёй, балотам. Часта цяжка распазнаць, што гэта такое. Тым больш яно небяспечнае, тым больш нельга да яго дакранацца. Гэта смерць! Хто хоча жыць, хай пакіне ў спакоі такую знаходку і абавязкова чым хутчэй паведаміць міліцыю.

Маем таксама шмат прыкладаў добрага супрацоўніцтва з міліцыяй.

Дзеці Мікалая Бучынскага з Нараўкі знайшлі ў лесе пісталет. Бацька хутчэй адставіў яго ў камендатуру міліцыі.

Дзеці з вёскі Каменная Старая ў Дуброўскім павеце знайшлі ў лесе кулямёт. Сказалі аб гэтым члену мясцовага гуртка ОРМО Яну Салікоўскаму, які зараз жа адставіў гэты кулямёт у міліцыю.

Янка Кушчук са сваімі сябрамі з вёскі Войнаўка перадалі міліцыі вінтоўку тыпу «Мосін», якую знайшлі ў сваім лесе.

Усё гэта здарылася зусім нядаўна — у ліпені і жніўні гэтага года. Толькі цеснае супрацоўніцтва з міліцыяй можа забяспечыць перад далейшымі няшчасцямі. Найлепш аднак не дакранацца рукой да нічога, што з'яўляецца падазроным.

ВР

---

Жаклін Кенедзі ўжо станавілася тут на калені. Таму ён толькі склаў рукі, нахіліў галаву і пачаў чытаць шэптам першую частку «Отчэ наш». Удава і ўрач — адзіныя каталікі сярод прысутных — прачыталі ў адказ другую палавіну. Сядзелкі маўчалі, схіліўшы галовы.

Агентам сакрэтнай службы Руфусу Янгбладу і Эмары Робертсу, апанятаным думкай аб змове, кожны пакой у Паркленскім шпіталі здаваўся пасткай. Калі Янгблад папрасіў указаць яму зацішнае месца, куды б ён мог правесці Джонсанаў, медсястра правяла іх у аддзяленне для лёгкахворых.

Пані Джонсан ішла за сястрой з усё большай трывогай. Да гэтага часу сакрэтная служба забяспечвала Джонсану толькі сімвалічную ахову і раптоўнае змяненне здавалася злавесным. Лабірынт, па якім яны ішлі, яшчэ больш абвастрыў страх пані Джонсан. Яна ведала, што без пабочнай дапамогі яна не знойдзе выхаду. Акрамя таго, Янгблад, клапоцячыся аб бяспецы, прыбіраў і тыя нямногія прадметы, якія маглі б паслужыць вехамі. На ложку злева ад іх ляжаў негр.

— Забярыце яго, — сказаў Янгблад сястры. Іншым агентам ён загадаў апусціць усе шторы.

(Працяг будзе)

---

**У Бельску ўсяго 6 сярэдніх школ**

# БЕЛЬСКАЯ ПРАЦА

Нядаўна пацікавіліся мы, ці ёсць вольныя месцы працы ў Бельску і Бельскім павеце. Гаварылі з кіраўніком «затруднення» Павятовай рады нарадовай.

Вольных месц працы многа — розныя фірмы ды ўстановы патрабуюць шмат працаўнікоў. На аднаго шукаючага працы мужчыну часта выпадае нават па некалькі вольных месц працы. Словам, можна выбіраць-перабіраць, дзе ляпей працаваць!.. На жаль, не можна таго сказаць пра шукаючых працы жанчын, іх неахвотна прымаюць на працу. Жанчыну чамусьці лічаць горшым працаўніком. У розных фірмах ёсць вольныя месцы працы, дзе маглі б зусім добра працаваць жанчыны — нават у будаўнічых фірмах. Аднак, гэтыя фірмы не прымаюць жанчын, чакаюць мужчынскіх рук. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў гэтым вінаваты і самыя жанчыны, якія вельмі неахвотна ідуць працаваць у будаўнічыя фірмы. Так званая «будова» лічыцца найгоршым месцам працы. Не так даўно аддзел «затруднення» разам з будаўнічымі фірмамі стварыў жаночую брыгаду. Але гэта брыгада распалася літаральна праз некалькі дзён. Як не дзіўна, але жанчыны вельмі хочуць працаваць на найгорш платных пасадах прыбіральшчыц у розных «бюрах». Відаць, лічаць гэта за больш «дастойную» і ганаровую працу.

Мімаходзь гэтай справы можна дадаць, што будаўнічыя фірмы асабліва стараюцца аб мужчынскія рабочыя рукі, што прыходзяць у горад з вёсак. Кажуць, што вясковыя людзі больш дысцыплінаваныя, больш працавітыя і не наракаюць на цяжкасці — не так нахабна дамагаюцца паляпшэння ўмоў, як гэта робяць гарадскія рабочыя... Але вольныя рукі на вёсцы знаходзяцца толькі ўвосень і ўзіму, калі няма работы ў полі. У выніку будаўляныя планы амаль сістэматычна не выконваюцца, бо як вядома, найбольш можна пабудаваць не зімою і нат' не восенню...

Прытым у Бельску і ў цэлым Бельскім павеце адчуваецца вялікі недахоп спецыялістаў-тэхнікаў, інжынераў, аграномаў. Асабліва шмат патрэбна тэхнікаў-будаўлянцаў розных спецыяльнасцей. У сувязі з тым вартавала б падумаць у Павятовай радзе над тым, каб пачаць старацца адкрыць у Бельску філіял хаця аднаго са шматлікіх будаўнічых тэхнікумаў, што расселіся роем у ваяводскім горадзе Беластоку. У Бельску існуе аж два агульнаадукацыйныя ліцэі — польскі і беларускі. Штогод заканчвае гэтыя ліцэі па некалькі дзесяткаў хлопцаў і дзяўчат. Значыць, ахвотных вучыцца ў такім філіяле знайшлося б шмат, напэўна не менш, чым трэба. Заўважана даўно, што выпускнікі прафесіянальных сярэдніх і вышэйшых школ стараюцца застацца працаваць у тым жа горадзе, дзе вучыліся, дзе пазнаёміліся з многімі людзьмі, дзе маюць сяброў — і прызвычаіліся да месца сваёй навукі.

Здаецца, зусім не новая гэта думка, што недахоп кадраў спецыялістаў у правінцыяльных цэнтрах можна вырашыць толькі праз арганізацыю адпаведных школ і ў малых гарадах — напрыклад, у Бельску.

У сучасны момант бельская праца мае яшчэ шмат хвароб — пра найважнейшыя з іх мы тут успамінаем. І чым хутчэй падумаем аб лячэнні іх, тым ляпей.

Як у кожнай хваробе.

(С.Я.)

---



# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**Што хто сказаў?**

**ЛЮДМІЛА ЖУКОЎСКАЯ**

**Катлы,** Бельскі павет,
Год 16, вучаніца
Прачытала:
**«Сымон-музыка»** Я. Коласа
**«На ростанях»** Я. Коласа
**«Салавей»** З. Бядулі

«Выбраныя творы мне вельмі падабаліся. Яны з'яўляюцца шэдэўрамі беларускай літаратуры. Па сваіх мастацкіх сродках і па багацці пейзажа яны выдзяляюцца сярод іншых твораў. Пісьменнікі рэалістычна паказалі беднасць вёскі, жыццё парабкаў, багацце палацаў і нарастанне свядомасці ў сялян».

**ІРЭНА ГУШЧ**

**Катлы,** Бельскі павет,
Год 16, вучаніца
Прачытала:
**«Гапон»** В. Дуніна-Марцінкевіча
**«На прасторах жыцця»** Я. Коласа
**«Палескія рабінзоны»** Я. Маўра

«Творы гэтыя мне падабаліся таму, што маюць яны вельмі цікавую тэму і багатую праблематыку. Героі твораў — простыя, з народа. Яны вызначаюцца багаццем характараў і ўнутраных перажыванняў. Мастак мог бы іх лёгка намаляваць. Акцыя твораў багатая драматычнымі момантамі, што мне вельмі падабаецца. Я люблю жывую акцыю ў творы».

**МІША ТЭЛЕШЭЎСКІ**

**Рэпіска,** Гайнаўскі павет,
Год 17, вучань
Прачытаў:
**«Сымон-музыка»** Я. Коласа
**«Салавей»** З. Бядулі
**«На ростанях»** Я. Коласа

«Трагічны лёс таленавітых людзей ва ўмовах класавага грамадства. Малады хлапчук у час вандроўкі пазнае жыццё беларускага народа. Сымон — настойлівы, сумленны і мужны юнак, марыць зрабіць жыццё ўсіх шчаслівым і вольным. Дзейнасць маладых настаўнікаў на Беларусі. Настаўнік, які сваё жыццё прысвячае дабру іншых. Гэта тэмы і гэта людзі кніжак, якія я прачытаў і якія мяне запалонілі».



 

# НЯВЕСТЫ АДМАЎЛЯЮЦЬ

Не заўсёды сарамлівай нявесце лёгка адважыцца сказаць «так» на прапанову аб шлюбе. Але, бадай, яшчэ больш рэзка адмовіць. Таму ў розных народаў стагоддзямі выпрацаваліся пэўныя ўмоўныя формы праяўлення нявестай сваіх адносін да сватаўства.

Нават у балкар, каўказскай народнасці, дзе раней дзяўчына павінна была паслухмяна выконваць волю бацькоў, існавала розніца ў яе адказах сватам. «Хто мілы маім бацькам, той мілы і мне», азначала, што ў душы нявеста не супраць таго, каб выйсці за гэтага чалавека. Адказ «Я выконваю загад маіх добрых бацькоў...» азначаў адваротнае.

У некаторых горных раёнах Італіі прэтэндэнт на руку нявесты кладзе ноччу на яе парог ствол дрэва. Калі на світанні ствол возьмуць у дом, значыць прапанова прынята; калі ствол выкінуты на дарогу, малады чалавек разумее, што яму адмоўлена. Амаль ва ўсёй Італіі існуе звычай рассыпаць пілавінне, вотруб'е або попел паміж домам жаданай дзяўчыны і адхіленага ёю паклонніка. Адмаўленне, напрыклад, на Украіне сімвалізуецца паднашэннем сватам гарбуза, у той час як хлеб азначае згоду... У Швейцарыі нявеста выражае сваю нязгоду хуткім уходам з пакоя, дзе знаходзяцца сваты. У Галандыі ў некаторых фрызскіх вёсках жаніх у святочным касцюме прыходзіць у дом дзяўчыны і бацькі яе пакідаюць іх адных каля ачага. Калі яна не падкладвае дроў у агонь і дае яму патухнуць, гэта значыць, што прапанова не прымаецца. У Францыі адмова свату або жаніху таксама давалася ў алегарычнай форме: у кішэню свату маглі пакласці жменю аўса, насыпаць вугаляў Калі прапанова прымалася, свата прасілі распаліць агонь у каміне або сесці з правага боку ад нявесты. У немцаў знакам адмаўлення служыў пусты кошык. А вось адзін з румынскіх спосабаў даведацца ў дзяўчыны аб згодзе на шлюб. Жаніх клаў пярсцёнак, нявеста — хустку ў талерку, якая стаяла на стале. Калі хлопец з дзяўчынай прыглянуліся адзін аднаму, то кожны браў сабе рэч у другога, калі не, вяселле не адбывалася...

У наш час у большасці краін нявесты, напэўна, адчуваюць сябе больш упэўнена і прасцей растлумачваюць жаніхам свае пазіцыі...

Фота Ул. Паўлючук



**Віктар Глушкоў дырэктар Кіеўскага Інстытута Кібернетыкі сцвярджае, што кібернетыка — гэта найвялікшая здабыча чалавека ў XX стагоддзі. Атамная энергія, космас дзейнічаюць мацней на ўяўленні чалавека. Электрычныя лікавыя машыны ўваходзяць да нашага жыцця паступова, а не ад прыпадку да прыпадку. Іх вага і аб'ём прымянення ў гаспадарцы перавышае адкрыццё атамнай энергіі і здабычы ў космасе.**

**Зараз найважнейшай справай з'яўляецца кіраванне прадукцыяй.**

## Кібернетыка

**У СССР, каб кіраваць народнай гаспадаркай, трэба ў год выконваць дзесяць узведзеных у шаснаццатую ступень арыфметычных аперацый. Інакш гаворачы гэта дзесяць мільярдаў «чалавека-год».**

**Недзе ў чацвёртым дзесяцігоддзі ўсе краіны перакрочылі б гэтую крытычную граніцу, калі б іх усё насельніцтва думала, тады можна было б аблічыць «неўзброенымі мозгамі». Зараз гэта ёсць немагчымым. Прычынай таго з'яўляецца велізарная колькасць інфармацый, якія трэба перативарыць. Выхад з таго адзін: трэба гвалтоўна пабольшыць «інтэлектуальныя» магчымасці чалавека.**

**(ак)**

# ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

Чысташарсцяныя вырабы, вырабы з сумесі шэрсці з лаўсанам або ад доўгага нашэння блішчаць. Ёсць некалькі спосабаў выдалення бляску з адзення. Бліскучую частку адзення пратрыце анучкай, змочанай у чыстым бензіне, а потым паўтарыце апрацоўку сумессю адной часткі нашатырнага спірту і пяці частак ахалоджанай гатаванай вады. Ачышчанае месца адпрасуйце праз сухое палатно або чыстую прамакатку. Другі спосаб: бліскучыя месцы пацерці сухой кухоннай соллю або сумессю нашатырнага спірту з соллю (па 15 грамаў таго і другога на дзве сталовыя лыжкі вады), затым чыстай вадой змыць парашок з тканіны, адпрасаваць яе праз анучку і пачысціць цвёрдай шчоткай (супраць ворсу), каб выпрастаць варсінкі тканіны.

*

Фарбаваная падлога лепш мыецца і захоўвае бляск, калі ў ваду дабавіць шклянку карасіну.

*

Плямы ад ёду змачыце некалькі разоў вадой хатняй тэмпературы і натрыце крухмалам. Можна таксама замачыць тканіну ў растворы з нашатырнага спірту і вады (адзін грам нашатырнага спірту на шклянку вады) і памыць потым у мыльнай вадзе.

## Аўтобус „Украіна“

Канструктары львоўскай аўтобуснай фабрыкі выпусцілі новы мадэль турыстычнага аўтобуса «Украіна». Унутры аўтобус радыёфанізаваны. Спецыяльнымі вентылятарамі даходзіць чыстае паветра. Новы аўтобус мае раздзявальню і буфет са спецыяльна прыстроеным халадзільнікам. Аўтобус змяшчае 34 пасажыры.

Канструктары палепшылі таксама ўмовы працы вадзіцеля (шафёра). Апрача вельмі выгаднага крэсла ў аўтобусе прымяняецца гідраўлічны ўзмацняльнік руля, які значна памяншае сілу патрэбную да вядзення самахода. Матор аўтобуса на толькі моцны, што дазваляе развіваць хуткасць 100 кіламетраў у гадзіну.



**Турыстычны аўтобус «Украіна».**

(а-ка)

## АЗАРТ ВАКОЛ АЛМАЗА

У Лясота (Афрыка) знойдзен нядаўна шосты ў свеце па велічыні алмаз вагой у 601,3 карата.

На аўкцыёне, які толькі што адбыўся ў Масеру (сталіца Лясота), гэты алмаз прададзен нейкаму Е. Серафіна з Блумфантэйна (ПАР) за 108.180 фунтаў стэрлінгаў. Цікава, што гэты ж гандляр каштоўнымі каменнямі ў 1905 годзе купіў алмаз вагой у 527 каратаў.

На аўкцыёне сапернікамі Серафіна былі прадстаўнікі кіраўніка буйнейшага горнаруднага канцэрна свету Опенгеймера, а таксама пакупнікі з ЗША, Галандыі і ПАР.

Старацель П. Рамабоеа, які знайшоў алмаз, заявіў пасля аўкцыёна, што ён купіць бульдозер і прадоўжыць распрацоўку свайго ўчастка ў гарах Лясота.

Цяпер алмаз знаходзіцца ў банку горада Масеру пад узмоцненай аховай паліцыі і будзе выдадзен пакупніку пасля таго, як ён выплаціць ураду Лясота падатак у размеры 15 працэнтаў ад агульнага кошту алмаза.

ЮЛЬЯН СЯМЁНАЎ

# МАЁР ВІХОР

### ДЭЗІНФАРМАЦЫЯ

Аня ў суправаджэнні Берга і гестапаўца Швальба была перавезена ў маленькі гарадок, размешчаны ля самых перадгор'яў Карпат.

Пасялілі яе ў маленькім пакоі без вокан. Калі яе везлі ў машыне па залітым сонцам горадзе, а потым па шашы, а потым праз лес, яна прагна глядзела ў вокны машыны і думала, што зараз, не, не зараз, а вось за тым паваротам, не, не за тым, а за наступным, не, вось у той даліне, на шашы выскачыць Віхор, Сівы і Коля з аўтаматамі і гранатамі, а ў Берга няма аўтамата, і ў гэтага другога таксама нічога няма; нашы рэзануць па машынах, машына тыцнецца носам у асфальт, і яна кінецца да Віхра, а потым да Сівога і Колі, а спачатку яна будзе доўга стаяць каля Віхра, а ён, напэўна, пацалуе яе, і яна тады таксама зможа пацалаваць яго, і нічога ў гэтым такога не будзе.

Але так ніхто і не вышаў з лесу з аўтаматамі, і ніхто не вызваліў яе. Машына ўехала ў адкрытыя зялёныя вароты, вароты зачыніліся.

Аню высадзілі з машыны і праз ціхі высаджаны ружамі двор правялі ў маленькі акуратны катэдж і там, у маленькім пакойчыку, замкнулі.

Берг доўга сядзеў са Швальбам над удакладненнем і пераправеркай першай дэзінфармацыі. Ён нанава ацэньваў кожны факт, звяраў з вялікай аператыўнай картай дыслакацыю кожнай вайсковай часці, перапраўляраў напісанне прозвішчаў, дапускаў дакладныя і неабходныя ў рускай мове скажэнні нямецкіх імён. Пры ўсім гэтым ён стараўся запамятаць неабвержныя доказы, якія пасля памогуць яму вытлумачыць прадстаўнікам бальшавікоў, якім чынам будавалася гэта дэзінфармацыя і якое ж у сапраўднасці становішча на фронце.

— Яна, дарэчы, давала вам падпіску аб згодзе працаваць? — спытаўся Швальб.

— Навошта ж яе адразу паніжаць падпіскай? Няхай яна перадасць цыкл радыёграм, а ўжо потым мы папросім яе падпісацца пад абавязацельствам. Цяпер паспешлівасць можа адштурхнуць яе. І потым не забудзьце: я яе саюзнік, я збіраюся здрадзіць радзіму.

Швальб засмяяўся.

— Я б не патрапіў так, — сказаў ён, — мяне б выдалі вочы.

— Не гаварыце аб гэтым нікому, — параіў Берг, — гэта гучыць як ваша заява аб прафесіянальнай непрыдатнасці для працы ў разведцы.

Пасля таго, як дэзінфармацыя была ўдакладнена і зацверджана, палкоўнік і Швальб вышлі пагуляць. Яны няспешна хадзілі па панадворку, які ўвесь быў у ружах і гіяцынтах.

«Як яе адсюль вывесці? — думаў Берг. — Ля варот — салдат. Ля брамкі, якая вядзе ў лес, — аўтаматчык. Праз плот яна, зразумела, не пералезе, ды яе ж адразу падстрэляць. А што гэта за зялёная будка? Умывальнік? У катэджы толькі адзін умывальнік, як жа я забыў аб гэтым? Усё геніяльна простае. Яна ўцячэ праз гэты ўмывальнік. Ён прыбудаваны ўпрытык да плота. Трэба будзе абцэнгамі выцягнуць там некалькі гваздзяў... Так... Толькі так...»

А ў гэты час Аня думала: «Скажы цяпер усё сумленна сама сабе: хоць на тысячную долю працэнта верыш ты гэтаму немцу? Ці няма ў тваёй маўклівай згодзе спачатку папрацаваць на іх, а потым уцячы, жадання выратаваць сваё жыццё, усхапіўшыся за тую саломінку, якую ён працятнуў сваёй згодай працаваць на нас? Хіба, усё-такі, — адказала сабе Аня і адчула, як у яе паледзянелі пальцы ног, у маёй згодзе было нешта ад жадання выратаваць сябе. Я не веру яму. Значыць? Што ж далей? Я адмоўлюся, хай страляюць. А калі ён сапраўды хоча ўстанавіць з намі кантакт? Тады мне гэтага не выбачаць у нас. Але я не выбачу сабе, калі памылюся і калі ён акажацца звычайным немцам, як усе, а я пачну працаваць на яго. Не, не! Хай страляюць! І ўсё. Не буду я нічога рабіць для іх!»

Берг спытаў:

— Паслухайце, Швальб, дзе тут пакой, абсталяваны для падслухоўвання размоў?

— Любы можна абсталяваць.

— Не, я пытаюся пра той, які ўжо падрыхтаваны. Я б пагаварыў з рускай, а вы б паслухалі. Вам трэба паслухаць манеру нашай размовы, каб вы былі маім кантрастам у тыя дні, калі я буду выязджаць і вы пачнеце працаваць з ёй адзін.

— Я зараз пазваню ў Кракаў, яны прышлюць з упраўлення нашага майстра.

— Хіба, найлепш гэта зрабіць у яе пакоі.

— Там не выйдзе: голыя сцены, да таго даволі тоўстыя.

— Ну, дамовіліся. Падшукайце пакой, я разлічваю на вас.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ФЭСТ У КРЫВЯЦІЧАХ

Штогод у Крывяцічах сёмага жніўня на Ганну адбываецца фэст. У гэтым годзе ён прайшоў вельмі прыгожа і культурна. Не было ні боек, ні п'яных хлопцаў. У святліцы да самага ранка была забава. Святліца была вельмі прыгожа ўбрана, за што трэба падзякаваць крывяціцкім дзяўчатам. Добра іграў аркестр, які прыехаў аж з Дубін.

**Янка Кірыдзюк**

## У АГАРОДНІЦКАЙ СВЯТЛІЦЫ

7 ліпеня гурток БГКТ у Агародніках (Бельскі павет) арганізаваў даходную забаву. Забава ўдалася, прыбыло на яе шмат моладзі з суседніх вёсак. Даход з забавы прызначаны на абсталяванне святліцы. Трэба адзначыць, што тутэйшая моладзь кожную нядзелю арганізуе патанцоўкі пры адаптары, на якіх культурна праводзіць час.

**Жыхар з Агароднікаў**

## ВЯСКОВАЯ МОДА

Па вёсках пайшла цяпер мода на драцяныя агарожы і маляванне дамоў фарбай. Найлепш адчуваецца гэта ў вёсцы Рудуты ў Бельскім павеце. Тут амаль кожная хата памалявана ў сярэдзіне і звонку, многа панадворкаў агароджана драцяной сеткай і жалезнымі брамамі ад вуліцы. Прыемна пабыць у такой вёсцы.

**М. Панфілюк**

## ПАРУ СЛОЎ АБ ЖНІВАХ

Сёлета ў вёсцы Крывяцічы жніво прайшло без клопатаў. Усе жыхары жалі або коннымі жняяркамі, або снапавязалкамі з сельскагаспадарчага гуртка. У нашым гуртку снапавязалак ёсць аж чатыры, так што на адну вёску гэта ўжо добра. Пасля жніва пачаліся падарыўкі. Чатыры трактары штодзённа аруць сялянам поле. Многія ўжо пачалі малаціць збожжа. Малатарні абслугоўваюць Валодзя Клін і Федзя Канопля. Амаль кожны жыхар пасеяў ужо паплёны. Сеецца найбольш лубін, рэпу, сырадэлю і іншыя.

Калі разыходзіцца аб сельскагаспадарчы гурток — сёлета ён вельмі добра прыслужыўся нашым гаспадарам.

**Янка Кірыдзюк**

## СЯЛЯНЕ НА ЭКСКУРСІЯХ

Сямяціцкі аддзел турыстычнай спулдзельні «Грамада» пачаў сваю дзейнасць у сакавіку гэтага года. Абслугоўвае ён таксама Бельскі і Гайнаўскі паветы.

Сямяціцкая грамада, між іншым, наладзіла ў гэтым годзе 5 экскурсій для сялян. Кожная група налічвала па 50 асоб. На экскурсіях пабывалі члены сельскагаспадарчых гурткоў з Астражан, Смаркліц, Драгічына і Сямяціч. Пастаянным заказчыкам у Сямяціцкага аддзела «Грамады» з'яўляецца чартаеўскі сельскагаспадарчы тэхнікум.

Найчасцей Сямяціцкі аддзел наладжвае экскурсіі ў варшаўскія тэатры.

(вр)

## РЫНАК У МІХАЛОВЕ

У Міхалове рынак бывае кожную сераду. Але тут бывае і другі рынак: у нядзелю раніцай.

З'язджаюцца сюды сяляне і прадаюць агародніну, грушы, яблыкі і слівы. Днямі быў я на гэтым рынку і прыглядаўся да гаспадароў. Бачу, адзін гаспадар прадае поўную фуру памідораў. Падыходжу да яго і пытаюся, па сколькі памідоры. Ён адказвае, што на выбар па 10 зл, а агулам па 8 зл. за кілаграм. Аказалася, што гэты грамадзянін з вёскі Іванкі, Гайнаўскага павета, Ярошук.

Ярошук пачаў вырошчваць памідоры ў мінулым годзе. Было ў яго пасаджана 8000 штук карчоў. У гэтым годзе пасадзіў ён 10 000 штук карчоў. Адзін корч памідораў дасць яму каля 6 кілаграмаў.

Для грамадзяніна Ярошука з Іванкоў вельмі ўдзячны ўсе сяляне з навакольных вёсак за тое, што ён абяспечвае іх у смакавітыя памідоры.

**«Ярош»**
Гайнаўскі павет




**Дарагое Сэрцайка!**

Месяц таму я паехала да сваёй цёці ў горад, далёка, бо ў іншае ваяводства. У цягніку да майго купэ прыйшоў прыстойны хлапец і запытаў у мяне, ці ёсць свабоднае месца. Я адказала, што так. І так мы ехалі больш 10 гадзін. Абое сказалі, як называемся. Абмяняліся адрасамі. Сташэк мне так спадабаўся, што ніяк не магу аб ім забыць. Нават у цягніку гаварыў мне, што я маю прыгожыя вочы, прыемны голас і што ўвогуле яму спадабалася.

Ужо 2 тыдні чакаю на ліст ад Сташка, а яго як няма, так і няма. Не ведаю, што рабіць. А мо ён згубіў мой адрас? Мо да яго напісаць, і ўсё будзе добра? Парай Сэрцайка.

Зіна
з Бельска

**Дарагая Зіна!**

Вельмі многа людзей знаёміцца ў цягніку (а перад усім моладзь). Аднак знаёмства ў большасці выпадкаў канчаецца, як толькі выйдуць з цягніка. У тваім выпадку таксама. Гаварылі аб усім, бо хутчэй мінае час у падарожжы, а нават прыемна з кімсьці цікавым пагаварыць. А што хлопец узяў адрас, гэта частае здарэнне. Аднак напэўна зараз і аб ім забыў. Так заўсёды бывае. Таму будзь амбітная і пастарайся забыць аб Сташку. Зносіць паражэнні таксама трэба з гонарам.

**Сэрцайка**



**НАРАЎКА.** Гандлёвыя павільёны.
**Фота: Міхась Зубрыцкі**

## ДЗЕД АМІЛЬЯН

Амільян Ціханюк з вёскі Зубава (Бельскі павет) мае 84 гады. У яго ўжо 18 унукаў і 2 праўнукі. Нягледзячы на свае гады, ён чуецца бадзёра і не кідае свае любімае працы. Дзядзьку Амільяна ведаюць усе ў ваколіцы як добрага спецыяліста. Ён ад 16 год жыцця працуе цесляром. У сваім жыцці пабудаваў 150 жыллёвых дамоў і каля 300 гаспадарчых будынкаў.



Тэкст і фота **П. Зінкевіч**

## ДАЖЫНКІ

Збожжа ўжо пад страхой, а частка нават абмалочана. Гаспадары могуць павесяліцца і падвесці першыя вынікі змагання за ўраджай.

Аказію дзеля гэтага ствараюць раённыя дажынкі. У Сямяціцкім павеце адбыліся яны 20 жніўня на станцыі ў Нурцу, а 27 жніўня — у ЦехаНоўцу.

Ураджай у сямяціцкіх сялян сёлета не горшы ад мінулагодняга. У сярэднім 15—17 цэнтнераў з гектара. Асабліва добра абрадзіла пшаніца.

Ад першых дзён жніўня гаспадары дастаўляюць тут збожжа дзяржаве. Першымі былі сяляне з Нурэцкай грамады.

(вр)

## ПАШТОЎКА З ВЁСКІ КАПІТАНШЧЫНА



За вёскаю палі і адвечная пушча.
Фота: **Я. Цялушэцкі**

---

Швальб пайшоў кантактавацца з Кракавам, а Берг накіраваўся да Ані. Ён шчыльна зачыніў за сабою дзверы, прысеў на крэсла, агледзеў столь і сцены: ці няма дзе аддушын, там заўсёды можна ўставіць апарат, — і сказаў:

— Слухайце мяне ўважліва, мілая.

— Я не хачу вас слухаць.

— Гэта значыць?

— Я раздумала.

— Што вы раздумалі?

— Я не буду нічога перадаваць нашым.

Берг дастаў з кішэні ўласаўскую газету, у якой было паведамленне аб спробе замаху на Гітлера.

— Паглядзіце ўважліва вось гэта. — І ён паказаў ёй пальцам на фатаграфію разбуранага бункера ў Растэнбургу.

Аня была падрыхтавана да барацьбы, яна ўсё прадумала: як яна будзе адмаўляцца, як яна будзе цярпець боль і муку, як яна прыме смерць. Яна толькі не падумала аб тым, як сябе будзе весці Берг. Яна чакала крыку, лаянкі, пабояў. Усяго, але толькі не гэтага кароткага паведамлення аб замаху на Гітлера, які зрабілі генералы вермахта, здраднікі радзімы.

«Калі ён запрапанаваў мне працаваць на нас? — успомніла Аня. — Да гэтага замаху? Да дваццатага? Няўжо ён сапраўды хоча памагаць нам? Значыць, усё зусім не так проста, як мне здавалася.»

І зноў Аня, як тады, пасля першай гутаркі з Бергам, паказалася сабе маленькай, бездапаможнай, дурненькай і нічога не разумеючай.

Берг узяў у яе з рук газету, схаваў у кішэнь, ціха падышоў да дзвярэй, нячутна адчыніў іх і выйшаў з пакоя.

Вечарам Швальб сказаў Бергу:

— Пане палкоўнік, я пакажу вам абсталяваны пакой.

— Дзякую. Я думаю, гутарку з ёй там варта правесці ўжо пасля першага сеанса радыёсувязі. Усё пакажа сённяшні вечар... Чакайце, вось яе выпускаюць на прагулку. Давайце адыдзем. І, калі ласка, не надзявайце пры ёй чорную форму: яна вельмі баіцца гестапа.

— Мяне гэта цешыць.

— Так, так, зразумела, прыемна, калі цябе баяцца ворагі, але аператыўная патрэба дыктуе нам іншыя законы.

Пазней Берг зайшоў да Ані і сказаў ёй на вуха:

— Сёння ноччу, у зялёным умывальніку, куды вас павядзе салдат, будуць выцягнуты ўсе гвоздзі. Адсуньце дошкі і ўцякайце. Ідзіце ў горад. Схавайце компас. Да Рыбны — трыццаць кіламетраў. Я буду чакаць звестак ад вас кожную суботу і нядзелю на лаўцы каля варот Старога Горада, з дзевятай да дзясятай. Няхай ваш чалавек скажа: «Прывітанне ад нашай дзяўчыны». Запамяталі?

— Так.

— Пашлі.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

## ПРАГРАМА на 5—10.IX.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Hasło „Odwaga'' (angielski), 5—6. „Pałace w płomieniach'' (rumuński), 7—8. „Lenin w Polsce'' (polski), 9—10.

**Кляшчэлі**

„Poławiacze gąbek'' (radz.), 5—6. „Upiór z Morsville'' (franc.), 7—8. „Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), 9—10.

**Дубіны**

„Tomasz oszust'' (franc.), „Gdzie jest trzeci król'' (polski), 9—10.

**Нараўка**

„Troje i las'' (polski), „Anioł błogosławionej śmierci'' (czeski), 6—10.

**Нарва**

„Sposób bycia'' (polski), „Przygody Wernera Holta'' (NRD), 6—10.

**Чыжы**

„Ktokolwiek wie'' (polski), „Towarzysze podróży'' (radz.), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**

„Fatalny list'' (angl.), „Chudy i inni'' (polski), 6—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Starsza pani bez godnosci'' (francuski), „Gangster i urzędnik'' (USA), 6—10.

**Орля**

„Obrońca z urzędu'' (angl.), „Tak blisko nieba'' (czeski), 6—10.

**Райск**

„Popioły'' (polski), I i II s. 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), „Zejście do piekła'' (polski), 5—8.

**Міхалова**

„Powiernik pań'' (franc.), „Zwali go Alcapone'' (jugosł.), 6—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ten wstrętny celnik'' (angl.), 5—6. „Tata, mama, córka i zięć'' (radz.), 7—8. „Gorące lato'' (jugosł.), 9—10.

**Шудзялава**

„Bokser'' (polski), „Zabawy w muzeum'' (węgierski), 6—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Miejsce dla jednego'' (polski), „Grunt to zdrowie'' (franc.), 6—10.

**Новы Двор**

„Don Gabriel'' (polski), „Tytoń'' (bułg.), 9—10.

**Ліпск**

„Panie inspektorze'' (jugosł.), „Trema'' (USA), 9—10.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.




## ХАЛАСЦЯК

Калі яму споўнілася дзевятнаццаць год, ён пазнаёміўся з Галяю. Галя была дзяўчына вясёлая, прыгожая, і ён закахаўся ў яе. І тады ж намерыўся ажаніцца. Але перш, чым гэта зрабіць, вырашыў з тым-сім параіцца. «Што ж, — сказалі яму, — Галя дзяўчына добрая. Вось толькі жонка якая з яе будзе. Звычайна ўсе прыгожыя дзяўчаты — няверныя жонкі», — і яму расказалі, як нехта недзе быў ажаніўся з прыгажуняю і тая, не пажыўшы і году, звязалася з нейкім матросам і...

Ён падумаў, падумаў і не ажаніўся...

Праз год ён пазнаёміўся з Таняю. Таня была не такая прыгожая, як Галя, але і не такая непрыгожая, каб у яе не закахацца. У Тані была маці, і быў свой домік з гародзікам і садком. І ён намерыўся ажаніцца з Таняю. Але перш, чым гэта зрабіць, вырашыў з тым-сім параіцца. «Што ж, — сказалі яму, — Таня дзяўчына надрэнная. А да таго ж яшчэ гародзік, садок, дамок... Вось толькі цешча...» — і яму расказалі, як нехта недзе быў узяў жонку з цешчаю, і цешча совала нос не ў сваё ды так, што той не вытрымаў і развёўся...

Ён падумаў, падумаў і не ажаніўся...

Мінуў яшчэ год і ён пазнаёміўся з Валяю. Валя была не сказаць, каб вельмі прыгожая, але і не сказаць, каб і непрыгожая... Не лепшая, відома, за Галю, але не горшая і за Таню. А галоўнае — Валя была круглая сірата, не мела ні бацькі, ні маці. Ён закахаўся ў Валю і намерыўся быў з ёю ажаніцца. Але перш, чым зрабіць гэта, вырашыў з тым-сім параіцца. «Што ж, — сказалі яму, — Валя дзяўчына вартая. Вось толькі жонка якая з яе будзе. Сірата ж...» — і яму расказалі, як недзе нехта быў ажаніўся з сіратою, і тая ані не ўмела ні варыць, ні мыць, і той, нехта, хадзіў-хадзіў галодны ды брудны, пакуль не ўзяў ды не развёўся...

Ён падумаў, падумаў і не ажаніўся...

Потым ён знаёміўся з Кацяю, з Вераю, з Надзяю, з Мартаю, з Іраю, з Аленаю, з Клаваю... Кожная з дзяўчат яму падабалася, кожную з іх ён кахаў, з кожнаю збіраўся ажаніцца. Але перш, чым гэта зрабіць, ішоў з тым-сім параіцца. Кожную з гэтых дзяўчат яму хвалілі і пра кожную з асцярогай пыталіся: «Вось жонка якая з яе будзе?» — і напаследак расказвалі пра некага, хто ўзяў быў ды ажаніўся, а пасля...

Ён думаў, думаў і не жаніўся...

Кажуць, яму цяпер за пяцьдзесят. А ён усё ходзіць, усё знаёміцца — відома, ужо не з дзяўчатамі, — усё кахае і хоча жаніцца...

І ўсё не жэніцца...

— «А як жа тыя дзяўчаты, з якімі ён збіраўся ажаніцца?»

Нічога, жывуць! Усе яны павыходзілі замуж, нарадзілі дзяцей і, кажуць, мужыкі не нахваляць бога, што даў ім такіх верных ды добрых жонак!

**Барыс Сачанка**



*Без слоў.*

**Станіслаў Шушкевіч**

## СУСЕДЗІ

Ходзіць дзед, як малады,
Без вусоў і барады,
А затое ў юнака,
Барада, як асака.

Абціранне робіць дзед,
І арлом глядзіць на свет,
Малады ж увесь у шэрсці,
Нават цяжка рот працерці.

Дзед умее і прытупнуць —
Мае людскія ён туфлі,
Малады ж у шыланосых,
Ступіць крок і кажа: «Досыць!»

«Крыжачок», часамі «Польку»,
Дзед танцуе з добрым толкам,
Гнецца хлопец ад натугі,
Калі скача бугі-вугі.

Дзед з гасцямі вып'ў чарку,
Паспяваў, скурыў цыгарку,
Малады ж у пяць хвілін
Праглынуў віна графін.

Дзед пайшоў на ложак спаць,
Дзед пайшоў адпачываць,
Малады ж ляжыць пад плотам,
Ловіць мух адкрытым ротам.

Калі гэта вам цікава,
Дзед жыве ў мяне направа,
А юнак, рукой падаць,
Калі хочаце вы знаць.

Вось якіх суседзяў маю,
Хто з іх лепшы, сам не знаю,
Кожны блізка, недалёка,
Кожны з іх жыве пад бокам.

**З балгарскага**

### ПРАДАВЕЦ РЭПЫ

Габраўскі селянін паехаў прадаваць рэпу. На мосце асёл спыніўся. Габравец разлаваўся і пачаў яго біць.

— Гэй, дзядзька! — крыкнуў яму нехта. — У цябе ёсць сумленне?

— Няма, браце. Скончылася, — адказаў габравец. — Толькі рэпа засталася.

### ЭКАНОМНА

Падарожнік, ідучы цераз Габрава, убачыў помнік пасярэдзіне ракі Янтры і спытаў, каму ён пастаўлены.

— Рача Ковачу, заснавальніку горада.

— А чаму яго паставілі ў рацэ?

— Каб не псаваць месца ў горадзе, — растлумачыў габравец.

### ДАГАВОР

Габравец прадаваў вараную кукурузу перад уваходам у Народны банк. За кароткі час ён зарабіў многа грошай. Аднойчы знаёмы прасіў пазычыць яму 50 леваў.

— Бачыш, браце, — сказаў прадавец кукурузы, — калі я адкрыў тут латок, мне давялося заключыць дагавор з банкам. Банк абавязаўся не прадаваць кукурузу, а я — пазычаць грошы.

### ЦЫРУЛЬНІК І ГАБРАВЕЦ

— Ці не жадаеце папудрыцца?
— А гэта ўваходзіць у кошт галення?
— Так.
— Тады, калі ласка, загарніце пудру асобна, для жонкі.

## У МЕСЯЦЫ ВЕРАСНІ



**НАРОДНАЯ ПЕСНЯ**

У месяцы верасні
Выпала пароша.
Дзед бабу палюбіў,
Што баба хароша.

І крывая, і сляпая,
Яшчэ к таму злая:
І крычыць, і бурчыць,
Проці дзеда не змаўчыць.

«Убірайся, бабка,
У новае белле,
Я ж цябе павяду
З сабой на вяселле».

Узяў жа дзед бабку
За белую ручку
І спіхнуў дзед бабку
З моста ды у рэчку.

«Цяпер, бабка, кайся,
Трошкі пакупайся».
А як бабка узныркне,
То дзед кіем папіхне.

Прыйшоў дзед дадому
Ды пачаў бажыцца:
«Ай, ай, далібог,
Не буду жаніцца».

Раздумаўся дзедка,
У ладонькі плешча:
«Калі буду жыў-здароў,
Ажанюся ешча».

### АРГАНІЗАЦЫЯ

Габраўцы — маладажоны прыехалі ў Рым. Спыталі ў гасцініцы, колькі часу спатрэбіцца, каб агледзець увесь горад. Ім растлумачылі, што на гэта трэба сама меней чатыры дні, і вельмі здзівіліся, калі праз два дні габравец стаў выпісвацца.

— Як жа вы паспелі так хутка азнаёміцца з горадам?

— Вельмі проста. — Жонка мая аглядала адну палову горада, а я — другую. А калі вернемся ў Габрава, раскажам адно аднаму пра ўсё, што бачыў кожны.



**— Я б хацела быць дарослай, каб насіць кароткія сукенкі.**

### АБАРАНЯЙ, ДЫ ВЕДАЙ КАГО

Крумкач без дай-прычыны знявечыў Голуба. Пацярпеўшаму аказалі патрэбную дапамогу, а вінаватага заарыштавалі. І тут заварушыліся добрахвотныя адвакаты. Зязюля даводзіла, што ў Крумкача гэта чыстая выпадковасць, дагэтуль ён і мухі не пакрыўдзіў. Каршун хваліў падсуднага за актыўны ўдзел у абмеркаванні ўсіх лясных спраў. Сава, паверыце, сама бачыла, як той жа Крумкач бараніў Сініцу ад крылатых дэбашыраў і хуліганаў.

Суд улічыў гэтыя станоўчыя водгукі. Забіяка атрымаў адзін год умоўна. Праз месяц ён напаў на Зязюлю і параніў ёй крыло: няхай ведае, каго так заўзята абараняла!








### Сарокі-трубачы

Паблізу ваеннага лагера каля Сіднея пасялілася чарада сарок. Яны навучыліся так умела наследваць сігналы трубачоў, што ўнеслі ў лагернае жыццё поўны балаган. У самы нечаканы час сарокі падымалі салдат па трывозе, клікалі на абед. Давялося для падачы сігналаў трубу замяніць шатландскай валынкай.



### Новаўвядзенне для п'яніц

Усім вядомы прывязныя рамяні, якімі пасажыры карыстаюцца пры ўзлёце і пасадцы самалёта. Аднак у ЗША гэтыя рамяні знайшлі яшчэ адно скарыстанне: імі забяспечваюцца высокія табурэты ў стояк у начных барах. Новаўвядзенне выклікана шматлікімі скаргамі кліентаў, якія падаюць з высокіх табурэтаў пасля чарговага кілішка...



### Надпіс

Адзін англійскі пастар павесіў на дзвярах свайго дома наступны надпіс: «Калі ў вас ёсць якія-небудзь клопаты, увайдзіце і павядайце іх мне. Калі ж у вас няма ніякіх клопатаў, увайдзіце і раскажыце мне, як гэта ў вас атрымліваецца».



**Лягчэй кожны дзень сустракацца з ворагам, чым раз у год з былым сябрам.**